ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№46 (2552)
13 лістапада 1997 г.
Выдаецца з 1955 г.
Цана 1 000 рублёў.

У БЕЛАРУСІ СТВАРАЕЦЦА РЭСПУБЛІКАНСКІ ЛЯСНЫ СЕЛЕКЦЫЙНА-НАСЕННЯВОДЧЫ ЦЭНТР

## ЛЕС ПАЧЫНАЕЦЦА З НАСЕННЯ

***Лясная гаспадарка ў сённяшняй нестабільнай беларускай эканоміцы, бадай, самая стабільная: драўніна заўсёды патрэбная. Вырошчваннем, ахovай, выкарыстаннем ляснога багацця займаюцца 79 лягсасаў у сістэме Міністэрства лясной гаспадаркі. Пра справы галіны, яе праблемы расказвае наш карэспандэнт.***

### БЕЛАРУСКІ ЛЕС

Наша краіна — адна з самых лясістых у Еўропе. Лясныя масівы займаюць трэцюю частку яе тэрыторыі: плошча рэспублікі крыху большая за дзвесце тысяч квадратных кіламетраў. І захаваліся лясы досыць поўна.

Яны і разнастайныя, і прыгожыя. У кожным рэгіёне ў іх свая адметнасць, вызначаная кліматычнымі асаблівасцямі, характарам мясцовасці.

Налібоцкая пушча — эталон лясоў цэнтральнай часткі рэспублікі. Цяпер яна не такая дрымучая, як у былыя часы. Але наведаеш яе — і моцна запомняцца хвалістыя пейзажы, квяцістыя лугі ў далінах Бярэзіны, Ісланчы, Усы. І доўга будзеш

(Заканчэнне на 3-й стар.).



НА ЗДЫМКУ: ляснічы Навагрудскага лягсаса Канстанцін САК у гадавальніку.

Фота Віктара СТАВЕРА.

ПРАБЛЕМЫ НАШАГА ЖЫЦЦЯ

## ПАКУТУЮЦЬ САМЫЯ СЛАБЫЯ

Сёння ў Мінску налічваецца 320 тысяч пенсіянераў, каля 40 тысяч інвалідаў агульнага захворвання, прыкладна 6 тысяч мнагадзетных сем'яў, 2,5 тысячы няпоўных сем'яў. На 1 студзеня 1997 года на тэрыторыі горада пражывала 24 795 адзінокіх і адзінокапражываючых гараджан.

Сёння гарадскім Упраўленнем сацыяльнай абароны дома абслугоўваецца прыкладна тры тысячы гараджан. У 1996 годзе, па даных органаў сацыяльнай абароны, у абслугоўванні аддзяленнямі сацыяльнай дапамогі мелі патрэбу 3 292 чалавекі. Дапамога ім аказвалася дзесяцццю аддзяленнямі сацыяльнай дапамогі, дзе працавала 301 чалавек. Усяго ж у сістэме органаў сацыяльнай абароны Мінска да пачатку гэтага года працавала 1 284 чалавекі.

Асабліва гэтыя лічбы ўражваюць, калі ўспомніць, што насельніцтва горада складае амаль паўтара мільёна.

Сёння кола тых, каго можна назваць малаабаяснымі, значна расшырылася. Калі яшчэ 5—6 гадоў назад праграма сацыяльнай абароны ахоплівала толькі 3—4 катэгорыі малазабяспечаных жыхароў горада — адзінокіх пенсіянераў, што атрымліваюць мінімальную пенсію, адзінокіх непрацуючых інвалідаў, то сёння рэзка павялічылася колькасць катэгорый гараджан, якія маюць патрэбу ў дапамозе. З'явіліся новыя групы насельніцтва, якім неабходная неадкладная сацыяльная падтрымка — шматдзетныя, няпоўныя сем'і, чарнобыльцы, воіны, звольненыя ў запас, сем'і загінуўшых у мірны час і многія іншыя. Значна ўзрасла колькасць усё тых жа адзінокіх пенсіянераў і інвалідаў, памеры пенсій якіх не забяспечваюць пражытачнага мінімуму. Тыя, хто яшчэ ўчора лічыўся забяспечаным, сёння маюць патрэбу ў самых элементарных рэчах.

Вызначыць мяжу, за якой чалавек мае права на атрыманне сацыяльнай дапамогі, нялёгка. Напрыклад, права на атрыманне бясплатнага харчавання маюць

(Заканчэнне на 3-й стар.).

*7 ЛІСТАПАДА — 80 ГОД ВЯЛІКАЙ КАСТРЫЧНІЦКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭВАЛЮЦЫІ*

## КАСТРЫЧНІК 17-га. ПОГЛЯД З 97-га

Рэвалюцыі павінны ацэньвацца ў працяглай гістарычнай перспектыве, скажам, было б наіўна і недарэчна выносіць вердыкт Вялікай французскай рэвалюцыі, разглядаючы яе праз бінокль напалеонаўскіх генералаў, ларнеты арыстакратаў, якія эмігрыравалі, ці амбразуры вулічных барыкад 1848 года. Мы нібыта далёка адышлі па часе ад нашай уласнай рэвалюцыі, але талмудысцкія ацэнкі ўжо не падыходзяць, а на іх руінах бачны парасткі такіх процілеглых падыходаў, што якраз перспектывы тут і не хапае.

### "СВЯТА ПРЫГНЕЧАНЫХ І ЭКСПЛУАТУЕМЫХ" ЦІ "ЗЛАЯ ВОЛЯ" БАЛЬШАВІКОЎ!

Калі б такое пытанне было вынесена на рэферэндум ці змешчана ў анкетах, гэта азначала б сур'ёзны прафесіянальны промах арганізатараў рэферэндуму ці анкетавання. Гісторыя заўсёды больш складаная, чым яе ўяўляюць. Аднак восем дзесяцігоддзяў экстрэмізму самалюбавання і захопленасці непазбежна павінны былі ў перыяд радыкальных рэформ нарадзіць хаця б некалькі гадоў экстрэмізму самабічавання і ганьбы.

Цікава, што многія замежныя назіральнікі даўно злучалі абедзве крайнасці, даючы сцвярджальны адказ на абедзве часткі пытання: так, былі масавыя (нярэдка ўзброеныя) выступленні супраць царызму, а затым і супраць Часовага ўрада; так, бальшавікі ўмела і хутка арганізаваліся ў 1917 годзе, выкарысталі народнае незадавальненне ў сваіх мэтах і захапілі ўладу. У такой сітуацыі для асэнсавання таго, што і як здарылася тады, 80 гадоў назад, на самай справе, кожны павінен звярнуцца да фактаў. Перш за ўсё да тых, якія не дапускаюць двааякага тлумачэння.

Айчынная гістарыяграфія доўгія гады білася ў цісках неабходнасці падаваць па-рознаму адны і тыя ж рэчы ў залежнасці ад патрабуемага вываду. Два прыклады. Калі было неабходна падкрэсліць прамысловы прагрэс пры савецкай уладзе, самадзяржаўная Расія непазбежна паказвалася як адсталая, асуджаная на залежнасць ад іншых вялікіх дзяржаў краіна.

(Заканчэнне на 5-й стар.).

ДЗЯДЫ





**Дзяды — светлыя і сумныя. Дзень памяці па ўсіх, хто адышоў у нябыт, але жыве ў нас, у нашай свядомасці, нашых думках, нашай душы. У гэты дзень мы ўспамінаем сваіх родных, дзядоў і бацькоў і сапраўды нібы адчуваем, што яны недзе побач, дапамагаюць нам і ахоўваюць нас ад бяды і небяспекі. А мы з удзячнасцю ўспамінаем толькі добрае, толькі светлае, што атрымалі ад продкаў у спадчыну. У гэты дзень людзі ідуць на могілкі і ў храмы, ставяць свечкі і памінаюць усіх памерлых і загубленых.**

**НА ЗДЫМКУ: хутка будуецца царква ў гонар іконы Божай Маці ўсіх пакутуючых радасце, што на вуліцы Прытыцкага ў Мінску. На Дзяды ў яе капліцы адбылося богаслужэнне.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# ЛЕС ПАЧЫНАЕЦЦА З НАСЕННЯ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

адчуваць, быццам наяве, пах смалістых саснякоў, прахалоду ельнікаў, далікатную пяшчоту бярэзнікаў. Ёсць тут і цудоўныя дубровы.

Над Прыпяццю лясныя пейзажы іншыя. Каля Мазыра, напрыклад, елка не расце. Арэал яе распаўсюджання за паўсотню кіламетраў на поўнач ад уладанняў мясцовага лясгаса. Тут пераважае хвоя, з ліс-цевых — бяроза, вольха, дуб.

На Гродзеншчыне менш вялікіх лясных масіваў, чым на Палессі. Тут у асноўным "палявыя" лясы: прывабныя зялёныя астравы сярод засеяных палёў...

Замежныя падарожнікі мінулых стагоддзяў у адзін голас адзначалі дрымучасць беларускага лесу, яго непраходнасць, дзікасць. Чалавек змяніў наш лес істотна. Цяпер прыкладна трэцяя частка беларускіх лясоў — пасаджаная. Штогод садзіцца да дваццаці тысяч гектараў.

Мяняецца пародны састаў. Паколькі дубровы значна парадзелі з-за высечак, то вырашана, што ў новых пасадках дуб павінен займаць не менш дзесяці працэнтаў. Садзяць лясгасы больш — да дваццаці. На Брэстчыне павялічваюць пасадкі чорнай вольхі: яна і расце хутчэй, і карыстаецца попытам.

Пасля вайны быў узяты курс на пасадку толькі сасны. Час паказаў памылковасць такога накірунку. Я бачыў лес у Мастоўскім раёне, пасаджаны на былым полі. Сумны выгляд у яго: тонкія, густыя сосны, без падросту, без моху.

— Пасля вайны, — патлумачыў ляснічы Віктар Казлоўскі, — засаджвалі лесам кінутыя палі, а таксама палеткі знішчаных гітлераўцамі вёсак. Аказалася, што садзіць лес на плошчах, на якія ўносіўся гной, нельга: дрэвы як след не вырастуць.

У апошнія гады тактыку змянілі. Закладваюць змешаныя лясы: саджанцы лепш прыжываюцца, такія масівы менш пажаранебяспечныя.

## ВЫКАРЫСТОЎВАЦЬ АШЧАДНА

У работнікаў лясной гаспадаркі шмат турбот, шмат праблем. Пакуль што лясгасы выконваюць дзве функцыі: вырошчваюць лес і перапрацоўваюць драўніну. Значыць — у адных руках і стварэнне, і знішчэнне. Ці правільна гэта? Ці мэтазгодна?

Большасць, з кім даводзілася мне гутарыць, лічаць, што лепш, безумоўна, было б, каб леснікі садзілі лес, даглядалі яго, ахоўвалі і прадавалі прамыслоўцам, як гэта робіцца ў краінах Захаду. Але... Гэтых "але" хапае, і ўсё застаецца, як і раней. У пагоні за прыбыткам часам знішчаюцца каштоўныя пароды дрэў і тыя, што не даспелі.

Кіраўнік прадстаўніцтва Сусветнага банка ў Беларусі Крыстофер Уілобі лічыць памылкай накіроўваць сродкі ў першую чаргу на вырубку драўніны, якая каштуе дорага, якую можна прадаць і атрымаць за яе валюту. "Калі весці такую палітыку, то праз 10 год можна застацца ні з чым. Нам здаецца, што такая пазіцыя няправільная, трэба думаць не толькі пра дзень сённяшні, але і глядзець у заўтра".

У адным з газетных артыкулаў, прысвечаных аналізу эканамічнай дзейнасці лясной гаспадаркі, гаварылася, што семдзесят працэнтаў драўніны з Беларусі ідзе ў замежныя краіны неперапрацаванай. Чаму? Свая перапрацоўчая база слабая. Не хапае сродкаў, каб давесці яе да сусветнага ўзроўню.

## ПАТРЭБНЫ І ДЛЯ БЕЛАРУСІ

Такім чынам, дзве важныя праблемы — вырасціць і перапрацаваць — сышліся ў адну.

Як вырашыць праблему? У нашай гутарцы першы намеснік міністра Мінлясгаса Мікалай Юшкевіч сказаў:

— Безумоўна, пасадкі для лесаводаў — работа не новая. Ёсць навыкі, вопыт. Створаны гадавальнікі для вырошчвання пасадачнага матэрыялу. Аднак час патрабуе іншых падыходаў, новых рашэнняў — і на больш высокім узроўні. Здзяйсняецца даўняя задума — стварыць моцную лесанасенную гаспадарку, паставіць яе на навуковую аснову. Прадугледжана ўзбуйніць гадавальнікі, забяспечыць іх усім неабходным для плённай работы. Сёлета закупляем замежныя камплекты абсталявання — па адным для кожнага абласнога вытворчага лесагаспадарчага аб'яднання. Поўны набор тэхнікі і інвентару прыйдзе на змену старым механізмам і прыстасаванням, якія праслужылі гадоў па сорак. Гэта дазволіць поўнасцю механізаваць у гадавальніках усе працаёмкія працэсы, выконваць іх якасна.

Цяпер таксама ёсць добрыя гадавальнікі — у Глыбоцкім, Барысаўскім, Аршанскім, Слуцкім, Ваўкавыскім лясгасах. Але гэтага недастаткова, бо і ў іх работа па шэрагу паказчыкаў не адпавядае еўрапейскім стандартам.

Пазнаёміўшыся з вопытам вядзення насенняводства ў шэрагу краін, спецыялісты, кіраўнікі Міністэрства лясной гаспадаркі, Інстытута лесу, лясгасаў прыйшлі да высновы, што і ў Беларусі патрэбны насенняводчы цэнтр. Толькі ён зможа даць такое насенне, з якога можна вырасціць высакаякасныя саджанцы розных парод. Безумоўна, гэта перспектыва, гэта лясы будучыні. Але ж трэба дбаць пра іх ужо сёння.

## ЯКІМ ЁН БУДЗЕ

Ствараецца Рэспубліканскі лясны селекцыйна-насенняводчы цэнтр не на голым месцы. У вёсцы Шчамысліца каля Мінска ў невялікай хаце некалькі дзесяткаў гадоў дзейнічае селекцыйная станцыя. Калектыў яе, не маючы дастаткова абсталявання і сродкаў, здолеў шмат памагчы лясгасам. Вось гэтая станцыя і пераўтворана ў цэнтр.

Стварэнне яго павінна карэнным чынам палепшыць становішча. Цэнтр пачне дзейнічаць праз некалькі гадоў. Цяпер вядзецца падрыхтоўка да яго будаўніцтва. Рыхтуюцца адпаведныя дакументы для іх узгаднення з міжнароднымі структурамі, зацікаўленымі ў паляпшэнні якасці беларускага лесу. Еўрапейскія вучоныя, спецыялісты шчыра прызнаюць, што беларускі лес на фоне еўрапейскага значнага абязлесення становіцца важнай крыніцай не толькі драўніны, але і свежага паветра.

Такія цэнтры ёсць у многіх "лясных" краінах. У Польшчы, Фінляндыі і іншых яны выконваюць розныя функцыі. Таму іх у Беларусі не капіруюць, ствараецца свая канцэпцыя, якая павінна забяспечыць высокаэфектыўныя вынікі айчыннага насенняводства.

— Наша галоўная задача, — расказвае дырэктар цэнтра Аляксандр Калеснік, — выкананне комплексу вытворчых, навукова-даследчых і праектных работ. Асноўны іх накірунак — ажыццяўленне адзінай тэхнічнай палітыкі ў лясным селекцыйным насенняводстве. Мэта — практычнае ўкараненне дасягненняў у яго вядзенне. Канчатковым вынікам павінна стаць сістэма элітнага насенняводства.

Палажэнне аб цэнтры аб'ёмнае, падрабязнае, прадугледжвае розныя бакі яго дзейнасці. Вось толькі асноўныя пункты:

— правядзенне лабараторных даследаванняў і аналізаў па ўдасканаленні метадаў кантролю пасяўных якасцяў насення, механічнага і агратэхнічнага аналізу глебы, біятэхналогіі;

— удасканаленне метадаў інтэнсіфікацыі вырошчвання пасадачнага матэрыялу, стымуляванне пладанашэння насенных плантацый, распрацоўка метадаў ранняй дыягностыкі спадчынных уласцівасцяў плюсовых дрэў;

— аказанне метадычнай дапамогі лясгасам у арганізацыі лясного насенняводства, гадавальнікаў і лесааднаўлення;

— распрацоўка, удасканаленне і спрыянне ўкараненню новых канструкцый, сродкаў механізацыі да прыстасавання па збору шышак, стварэнню плантацый і вырошчванню пасадачнага матэрыялу.

Цэнтр плануецца ўзвесці каля Мінска: тут і кадры ёсць, і з жыллём лягчэй. Ён будзе складацца з комплексу сучасных будынкаў — службовых, вытворчых, дапаможных.

У галоўным корпусе размесяцца асноўныя службы, якія забяспечаць бесперапыннасць тэхналагічнага працэсу. У лабараторыях будуць кантраляваць якасць насення, прывезенага з усіх лясгасаў, даследаваць яго біялагічныя ўласцівасці, аналізаваць глебы. Прадугледжваецца ўстаноўка абсталявання для перапрацоўкі шышак, ачысткі і раздзялення насення. (Цяпер гэта робяць на месцах хто як можа і як надумае). У сховішчах з пастаянным тэмпературным рэжымам мяркуецца захоўваць асноўны насенны фонд Беларусі.

Для правядзення навукова-даследчых работ лесаводы будуць забяспечаны самым сучасным абсталяваннем, прадугледжаны максімальная механізацыя і камп'ютэрызацыя ўсіх працэсаў.

Плануецца стварыць у кожнай вобласці два-тры філіялы цэнтра. Яны зоймуцца вырошчваннем насення і саджанцаў у закрытым і адкрытым грунце, будуць весці даследаванні, доследы і г. д.

Стварэнне цэнтра прадугледжана праграмай развіцця лясной гаспадаркі па інвестыцыях Сусветнага банка.

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

# ПАКУТУЮЦЬ САМЫЯ СЛАБЫЯ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

грамадзяне, памер пенсій якіх не перавышае 800 000 беларускіх рублёў. Аднак што рабіць чалавеку, памер пенсіі якога складае, напрыклад, 1 200 000? Таго, што застанецца пасля аплаты кватэры і камунальных паслуг, не хопіць нават на хлеб. Адзінокае пражыванне з'яўляецца адным з асноўных крытэрыяў, па якім дапамога аказваецца ў першую чаргу.

Пераход да рыначных адносін значна аслабіў і нават ліквідаваў сістэму афіцыйнага шэфства прамысловых прадпрыемстваў над установамі сацыяльнай абароны і пенсіянерамі. Вырашэнне многіх сацыяльных праграм стала магчымым дзякуючы дапамозе камерцыйных структур на прынцыпах дабрачыннасці, міласэрнасці і мецэнацтва. Увогуле ж, забеспячэнне бясплатнага праезду, льготнымі медыкаментамі, льготнага і бясплатнага харчавання ідзе за кошт бюджэту і складае прыкладна 800 мільярдаў беларускіх рублёў. Акрамя гэтага, аказваецца аднаразовая грашовая дапамога за кошт былога пенсійнага, а цяпер фонду ям грамадзян, як інваліды Чарнобыля, перасяленцы, сем'і памерлых ліквідатараў. Тым не менш, ствараецца ўражанне, што праблемы не змяншаюцца, а растуць з кожным днём.

Уся пералічаная вышэй сацыяльная дапамога тычыцца пытанняў, звязаных з тым, каб накарміць галодных і апрануць раздзетых, словам, з клопатам аб целе. Сёння ж на першае месца выходзіць зусім іншае пытанне — сацыяльная падтрымка людзей, якія па той ці іншай прычыне апынуліся ў крытычнай сітуацыі. Праблемы, з якімі сёння звяртаюцца людзі ў органы сацыяльнай абароны, зусім відавочна даказваюць неабходнасць стварэння раённых цэнтраў сацыяльна-псіхалагічнай дапамогі са штатнымі псіхолагамі, сацыёлагамі, юрыстамі. Можа быць, гэтыя службы дапамогуць прадухіліць суіцыды, што пачасціліся сярод пажылых людзей, інвалідаў ды і проста беспрацоўных, якія не ў стане пракарміць сям'ю. Як паказвае вопыт, расце колькасць тых, хто апынуўся ў стрэсавай сітуацыі, з'яўляюцца і абвастраюцца ўнутрысямейныя, асобасныя праблемы, якія патрабуюць умяшання спецыялістаў. Ужо відавочная неабходнасць стварэння крызіснага цэнтра сацыяльнай абароны. Што тычыцца мерапрыемстваў накшталт Дня інвалідаў, Дня маці, Дня пажылога чалавека, святаў 9 Мая, 8 Сакавіка і іншых, то яны праводзяцца выключна за кошт дабрачынных ахвяраванняў.

Ужо традыцыйна ў першую чаргу дзяржаўная дапамога аказваецца ветэранам і інвалідам вайны, якіх у горадзе пражывае 14 548 чалавек. Сумная традыцыя нашага грамадства — цяжэй за ўсё самым слабым. Па-ранейшаму інвалід на вуліцы горада — вялікая рэдкасць. І справа не толькі ў адсутнасці спецыяльных прыстасаванняў у грамадскім транспарце, якімі ў Еўропе аснашчаны практычна ўсе рэйсавыя аўтобусы, пандусаў і з'ездаў. Ужо многа гадоў існуюць цяжкасці ў забеспячэнні інвалідаў сродкамі перамяшчэння. Калі ў 1994 годзе для іх было набыта 206 аўтамабіляў, то ў 1995-м ужо толькі 67, а ў 1996 годзе ўсяго 37 аўтамабіляў. Ці варта гаварыць, што інвалідаў за гэты час у горадзе менш не стала, а ў чарзе на атрыманне і набыццё аўтамабіляў па льготнаму кошту сёння значыцца каля 1 000 чалавек.

Многія праблемы маламаёмасных грамадзян дазваляюць вырашыць сацыяльныя магазіны, такія, як "Суполка" ў Цэнтральным раёне, "Дабрадзейства" — у Фрунзенскім, "Добразычлівасць" — у Партызанскім, дзе па спісах органаў сацыяльнай абароны і па цэнах, ніжэйшых за дзяржаўныя, можна набыць прамысловыя тавары першай неабходнасці — адзенне, абутак, пасцельную бялізну. Для найбольш бедных слаёў насельніцтва пры гарадскім Упраўленні сацыяльнай абароны ўжо сем гадоў працуе салон "Міласэрнасць", дзе збіраюць ад насельніцтва адзенне, што было ў карыстанні, і раздаюць яго бедным людзям. Там жа наладжана сістэма паступлення ў салон гуманітарнай дапамогі з-за рубяжа, якая таксама бясплатна раздаецца тым, каму без яе проста не абысціся. Пры салоне ёсць рахунак, куды паступаюць сродкі ад спонсарскіх арганізацый, на якія набываюцца новыя рэчы, да Калядных і Велікодных святаў камплектуюцца харчовыя пасылкі.

Яшчэ адзін від рэальнай дапамогі маламаёмасным адзінокім пенсіянерам і інвалідам першай групы, памер пенсій якіх не перавышае 850 000 — дастаўка гарачых бясплатных абедаў. Аднак магчымасці Упраўлення па сацыяльнай абароне насельніцтва невялікія, і атрымаць іх у гэтым годзе змог толькі 231 чалавек. Усяго ж па гораду бясплатна харчуецца 705 чалавек. Ці варта гаварыць, што маючых патрэбу ў гэтым значна больш.

У Фрунзенскім раёне сумесна з міжнароднай арганізацыяй "Карытас" адкрыта другая сталовая для харчавання інвалідаў па зроку, пры гэтай жа сталовай арганізавана кухня на колах. Дапамога аказваецца такім катэгорыям... для жанчын, цэнтраў сацыяльнай дапамогі сям'і і дзецям, экстраннай псіхалагічнай дапамогі, сацыяльна-рэабілітацыйных цэнтраў для непаўналетніх, начлежак. Ужо маецца Палажэнне па стварэнню крызіснага цэнтра, распрацаваны штатны расклад, аднак усё ўпіраецца ў адсутнасць сродкаў для рэалізацыі гэтага праекта.

Зусім нядаўна быў зроблены крок да стварэння першага начлежнага дома для бамжоў, было вырашана пытанне аб выдзяленні памяшкання ў Кастрычніцкім раёне горада, якое ў бліжэйшы час будзе адрамантавана. Пакуль жа ствараецца банк даных, які па задуме УУС і гарадскога Упраўлення сацыяльнай абароны павінен даць уяўленне аб тым, колькі людзей гэтай сацыяльнай катэгорыі сёння налічваецца ў Мінску. Мяркуецца, што паслугамі начлежкі будуць карыстацца жыхары горада, якія ў свой час па тых ці іншых прычынах пазбавіліся жылля, усіх астатніх будуць этапіраваць па месцу былога пражывання.

Нават тыя неглыбокія сацыялагічныя даследаванні, якія ўдалося правесці спецыялістам Упраўлення сацыяльнай абароны, паказваюць, што ва ўмовах сацыяльна-эканамічнага крызісу, які ахапіў грамадства, найбольш слабай і не абароненай у сацыяльных адносінах аказалася сям'я. Сведчанняў таму нямала, яны ўжо відаць і неспецыялісту: павелічэнне разводаў да 70 працэнтаў, звужэнне ўзнаўлення насельніцтва — смяротнасць перавышае нараджальнасць, адмова ад нараджэння дзяцей, зніжэнне адказнасці за іх выхаванне. Пра гэта сведчыць і павелічэнне паказчыкаў сацыяльнага сіроцтва, калі бацькоў пазбаўляюць бацькоўскіх правоў. Так, у Мінску ў 1993 годзе бацькоўскіх правоў былі пазбаўлены 200 чалавек, у 1994 — 247, 1995 — 300, у 1996 — 345. Паказчыкі гэтага года, мяркуючы па ўсім, будуць яшчэ больш высокімі.

Востра стаіць пытанне аб расшырэнні сеткі інтэрнатных устаноў, прызначаных для псіха-неўралагічных хворых. Сёння ў Мінску існуе чарга тых, хто мае патрэбу ў паслугах такіх устаноў, а між тым, у бліжэйшы час узвядзенне новых будынкаў не прадугледжана. Не ўдаецца пакуль вырашыць і кадравую праблему ў інтэрнатных установах горада. Не хапае ўрачоў, медсёстраў, санітарак.

Сёння ўжо відавочна, што праблемы нашага быцця, якія множацца з кожным днём, значна перавышаюць магчымасці, якімі валодае гарадское Упраўленне сацыяльнай абароны. Атрымліваецца парадаксальная сітуацыя, калі дзяржава, адной рукой даючы рубель, другой адбірае дзесяць. І ў першую чаргу пакутуюць ад гэтага самыя слабыя.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

# БЕЛАРУСКАЯ ДЫЯСПАРА: ПОГЛЯД НА МІНУЛАЕ І СУЧАСНАСЦЬ

Ва ўмовах 30-х гадоў кіраўніцтва БССР не аказвала ніякай падтрымкі як усходняй, так і заходняй беларускай дыяспары ў выяўленні яе патрэб, арганізацыі нацыянальна-культурнай дзейнасці. Пашырэнне савецкага ўплыву, камуністычных ідэй — толькі гэтую мэту ставіла кіраўніцтва СССР у дачыненні да ўсіх нацыянальных эміграцый. Такая ідэалагізацыя адносін сталася адной з прычын размывання нацыянальнай свядомасці эмігрантаў, іх русіфікацыі.

## БЕЛАРУСКАЯ ДЫЯСПАРА Ў ГАДЫ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

Пачатак вайны, захоп Германіяй Польшчы і далучэнне Заходняй Беларусі ў верасні 1939 года да БССР абумовілі актывізацыю палітычнага жыцця беларускай эміграцыі ў заходнееўрапейскіх краінах, уцягванне яе ў сферу ўплыву нямецкай палітыкі. Да таго ж у гэты час шэрагі эміграцыі папоўніліся вядомымі нацыянальнымі дзеячамі, якія не давяралі савецкай уладзе і выехалі з Заходняй Беларусі, калі на яе тэрыторыю ўвайшла Чырвоная Армія. І сапраўды, на працягу 1939—1941 гадоў у БССР рэпрэсіям падвергліся вядомыя лідэры і ўдзельнікі заходнебеларускага нацыянальнага руху (у тым ліку і прасавецкай, пракамуністычнай арыентацыі), а таксама ўсе, хто крытычна ставіўся да новай тут савецкай улады ці мог стаць яе патэнцыяльным праціўнікам або проста іншадумцам.

У выніку ваенных дзеянняў Германіі ў верасні 1939 года ў палоне апынулася 70—80 тысяч беларусаў, якія былі прызваны і ваявалі супраць немцаў у складзе польскага войска.

У сувязі з усімі гэтымі акалічнасцямі павялічылася зацікаўленасць нямецкіх уладаў беларускім пытаннем. Адзнакай гэтага было стварэнне ў лістападзе 1939 года ў Берліне Беларускага прадстаўніцтва пры Міністэрстве ўнутраных спраў, якое займалася беларусамі ў Германіі, а пазней і на акупіраваных ёю тэрыторыях. Ад снежня 1939 года яно наладзіла выпуск штотыднёвай газеты на беларускай мове "Раніца". Арганізацыю матэрыяльнай падтрымкі і культурна-асветнай работы ў гады другой сусветнай вайны ажыццяўлялі на грамадскіх пачатках Беларускі камітэт самапомачы (створаны ў 1940 годзе ў Берліне, меў філіялы ў Мюнхене, Лейпцыгу, захопленых немцамі Лодзі, Торуні, Празе, Вене і інш.), а таксама Беларускі камітэт у Генеральнай губерні (дзейнічаў у Варшаве ад студзеня 1940 года і меў аддзяленні ў Кракаве і Бяла-Падлясцы).

У беларускіх асяродках Германіі і акупіраваных ёю заходнееўрапейскіх тэрыторыях было неадназначнае стаўленне да нямецкай палітыкі і розныя спадзяванні ў сувязі з гэтым адносна лёсу Беларусі. Адсутнасць на пачатку другой сусветнай вайны больш-менш выяўленай пазіцыі кіраўніцтва Германіі наконт будучага адміністрацыйна-палітычнага статуса Беларусі, пэўная яго зацікаўленасць беларускім пытаннем спарадзілі разлік у некаторай часткі лідэраў беларускай эміграцыі на падтрымку іх памкненняў да незалежнасці Беларусі. Хаця, дарэчы, ніякіх афіцыйных дамоўленасцяў ці якіх іншых гарантый на гэты конт не было. Польскі гісторык-беларус Ю. Туронак так вызначыў мэты беларускіх палітыкаў, арыентаваных на Германію: "Агульнай рысай гэтых груп было жаданне выступаць у ролі прадстаўнікоў беларускага народа і патэнцыяльных палітычных партнёраў Германіі і навязаць нямецкім уладам аптымальныя, на іх погляд, рэцэпты вырашэння беларускага пытання пасля спадзяванага разгрому СССР".

Аб гэтым сведчыць і стварэнне 19 чэрвеня 1941 года ў Берліне на нарадзе прадстаўнікоў беларускіх арганізацый і ўстаноў (Германіі і Генеральнай губерні) Беларускага нацыянальнага цэнтра "для кіравання, плянаваньня і коордынацыі беларускай нацыянальнай працы" на гэтай тэрыторыі. На думку Ю. Туронка, практычна "гэта быў орган, які ў спрыяльных умовах збіраўся аб'явіць сябе часовым урадам Беларусі" па ходу заняцця беларускіх зямель немцамі.

Напярэдадні нападу Германіі на СССР адпаведныя нямецкія ўстановы (разведслужба, служба бяспекі і інш.) рабілі захады для выкарыстання ў сваіх мэтах (разведвальнай, прапагандысцкай рабоце) рознагалоссяў, асабістых амбіцый, барацьбы за лідэрства сярод беларускіх эмігрантаў — прыхільнікаў апоры на Германію. На пачатку 1941 года на яе тэрыторыі працавалі курсы па падрыхтоўцы кадраў будучай цывільнай адміністрацыі для беларускіх тэрыторый.

Але ў беларускіх асяродках Еўропы была арыентацыя не толькі на нямецкую падтрымку, але і на антыгітлераўскую кааліцыю дзяржаў. Летам 1940 года ў Варшаве створана Партыя беларускіх нацыяналістаў.

Пачатак другой сусветнай вайны, а затым яе пашырэнне пасля нападу Германіі на СССР, у выніку чаго Беларусь стала арэнай жорсткіх баёў і працяглай акупацыі яе тэрыторыі, абумовілі трэцюю масавую хвалю ўнутранай і знешняй міграцыі, вымушанае папаўненне дыяспары. Амаль 1,5 мільёна чалавек былі эвакуіраваны на ўсход СССР. У ліку савецкіх ваеннапалонных за мяжой апынуліся сотні тысяч беларусаў. 400 тысяч жыхароў Беларусі (па некаторых крыніцах, да 700 тысяч) былі вывезены акупантамі на работу ў Германію. Пад кантролем нямецкіх улад культурна-асветную працу сярод іх праводзіў Беларускі камітэт самапомачы і яго філіялы, штотыднёвыя газеты "Раніца" (1939—1945) і "Беларускі работнік" (1943—1944). Дзейнічала Беларуская культурная суполка ў Германіі. Адпаведныя нямецкія службы намагаліся ўцягнуць у сваю палітыку вядомых на эміграцыі дзеячаў. Знакаміты беларускі спявак М. Забэйда-Суміцкі, які з мая 1940 года жыў у Празе, нягледзячы на ціск адпаведных нямецкіх службаў, адмовіўся ўзначаліць "беларускія" радыёперадачы з Берліна, а таксама спяваць у Пражскім тэатры, бо за гэта ад яго патрабавалася "праявіць сябе палітычна".

Нягледзячы на захады адпаведных нямецкіх устаноў, прэзідэнт БНР В. Захарка, які знаходзіўся ў акупіраванай Празе, адмовіўся выступаць ад імя БНР у падтрымку нямецкай палітыкі, а перад смерцю ў 1943 годзе перадаў свае поўнамоцтвы М. Абрамчыку.

Другая сусветная вайна паглыбіла палітычнае размежаванне беларускай эміграцыі на амерыканскім кантыненце, а таксама тэрыторыі дзяржаў антыгітлераўскай кааліцыі. Тут павялічылася колькасць патрыятычна настроеных людзей, што спачувалі СССР, які нёс асноўны цяжар змагання з фашызмам. На хвалі антыфашысцкага ўздыму ў розных краінах пачалі стварацца камітэты ў падтрымку СССР. Украінска-беларуска-карпатарускі камітэт дапамогі СССР ва Уругваі з 1941 па 1946 год правёў 11 кампаній збору ахвяраванняў. Беларускі дэмакратычны камітэт дапамогі Радзіме, які налічваў 5 тысяч членаў, меў 36 падкамітэтаў у розных гарадах Аргенціны, Парагвая, Уругвая, Бразіліі.

Актывізавалася дзейнасць нацыянальных таварыстваў, павялічылася колькасць іх членаў, пачалі ствараццa новыя арганізацыі, якія праводзілі грамадска-культурныя мерапрыемствы, акцыі падтрымкі СССР, дзяржаў антыгітлераўскай кааліцыі.

У Аргенціне паўсталі Беларускае таварыства імя Скарыны (1941), імя Янкі Купалы, Украінска-беларускае культурнае таварыства ў Касерас (1941), Украінска-беларускае таварыства ўзаемадапамогі ў Камадора Рывадавія (1942). У 1943 годзе многія з іх былі закрыты ўладай, але праз некаторы час аднавіліся, пачалі аб'ядноўвацца і пад уплывам прасавецкай арыентацыі сталі паступова губляць нацыянальны характар сваёй дзейнасці і русіфікавацца.

Заснаваная восенню 1941 года Беларуска-амерыканская нацыянальная рада ў Чыкага разгарнула грамадска-культурную працу, заклала традыцыю святкавання 25 сакавіка як Дня незалежнасці Беларусі, гадавін трагічнай гібелі Я. Купалы, даводзіла да грамадскасці краіны ідэі незалежнасці і цэласнасці этнічнай тэрыторыі Беларусі. Матэрыяльную дапамогу БССР арганізавала створанае ў 1944 годзе ў Нью-Йорку Мінскае зямляцтва, Камітэт дапамогі насельніцтву Мінска і інш. Амерыканскія беларускія арганізацыі перыяду другой сусветнай вайны, як падкрэслівае амерыканскі даследчык-беларус В. Кіпель, "сталіся каталізатарамі шырокае матэрыяльнае дапамогі бацькаўшчыне і паслужылі ёй важнаю палітычнаю падтрымкаю, выступаючы перад шырокім сьветам зь ідэямі незалежнасьці й тэрытарыяльнае непадзельнасьці Беларусі".

Беларускія эмігранты першай масавай хвалі і выхадцы з Заходняй Беларусі склалі большасць створанай на з'ездзе Рускіх камітэтаў дапамогі Радзіме ў 1942 годзе новай арганізацыі — Федэрацыі рускіх канадцаў.

У гады вайны беларуская эміграцыя на амерыканскім кантыненце ўключылася ў шырокія агульнаславянскія акцыі маральнай і матэрыяльнай падтрымкі антыгітлераўскай кааліцыі. Створаны ў Маскве ў 1941 годзе Славянскі камітэт заклікаў усіх славян да барацьбы з фашыстамі, ініцыіраваў паяўленне на амерыканскім кантыненце адпаведных камітэтаў у асяроддзі славянскай эміграцыі. Прадстаўнікі беларускай эміграцыі ўдзельнічалі ў мерапрыемствах арганізацыі "Славяне Амерыкі ў барацьбе за перамогу і мір", Амерыканскага славянскага кангрэса, Усеславянскай асацыяцыі ў Канадзе. Беларускія арганізацыі былі прадстаўлены 50 дэлегатамі на першым славянскім кангрэсе Лацінскай Амерыкі (1943). У адпаведнасці з яго рашэннем Славянскі саюз быў створаны ў Аргенціне, Уругваі. Членамі іх сталі практычна ўсе беларускія арганізацыі гэтых краін.

На франтах другой сусветнай вайны нямала беларускіх эмігрантаў змагалася ў войсках дзяржаў антыгітлераўскай кааліцыі. У французскай арміі ваявалі супраць Германіі і беларусы, больш за 6 тысяч якіх былі мабілізаваны ў адпаведнасці з новым законам гэтай дзяржавы. Пазней, калі Францыя была акупіравана, беларусы-эмігранты аказаліся і ў шэрагах руху Супраціўлення на яе тэрыторыі, як і іншых еўрапейскіх дзяржаў. У баях з германскімі войскамі праявілі мужнасць сотні амерыканскіх беларусаў. У складзе брытанскай арміі ваявалі з немцамі беларусы Другога польскага корпуса (пад камандаваннем генерала Андэрса), які вызначыўся ў многіх баях, у тым ліку — вядомай бітве пад Монтэ-Касіна ў Італіі. Па некаторых звестках, у гэтым корпусе налічвалася да 12 тысяч беларусаў. Калі пасля дамоўленасці ў 1941 годзе паміж савецкім кіраўніцтвам і лонданскім урадам Сікорскага ў СССР пачалося фарміраванне польскага войска для барацьбы з гітлераўцамі, то было дазволена залічваць у яго польскіх вайскоўцаў, захопленых пры далучэнні да СССР Заходняй Беларусі, а таксама беспадстаўна дэпартаваных затым яе жыхароў на Поўнач і ў Сібір. Сярод і першых, і другіх было шмат беларусаў, якія, ратуючы сябе, запісаліся палякамі і ў складзе корпуса Андэрса пакінулі СССР.

Набліжэнне Чырвонай Арміі да дзяржаўнай граніцы СССР падштурхнула нацыянальных дзеячаў на яшчэ занятай немцамі тэрыторыі да правядзення Другога Усебеларускага кангрэса (Мінск, 27 чэрвеня 1944 года), удзельнікамі якога сталі 1 039 прадстаўнікоў з Беларусі і ад замежных беларускіх арганізацый з Варшавы, Кракава, Берліна, Вены, Кёнігсберга. Рэзалюцыя гэтага кангрэса зафіксавала рашэнне "пацьвердзіць гістарычную пастанову Рады Беларускай Народнай Рэспублікі... аб канчальным разрыве Беларусі з бальшавіцкай Масквою і расейскай дзяржавай у ўсіх яе формах". Другі Усебеларускі кангрэс абвясціў не маючымі "ніякай праўнай сілы" "ўсе ўмовы ці аднабаковыя пастановы ўрадаў: СССР, былой Польшчы і сучаснага гэтак званага эміграцыйнага ўраду Польшчы, якія датычаць тэрыторыі Беларусі і Беларускага Народу і якія былі зроблены раней або будуць зроблены ў будучыні... і як ня будуць мець сілы і ўсялякія іншыя магчымыя спробы падзелу Беларусі з боку іншых дзяржаў і народаў". Аб'ектыўная ацэнка гэтай падзеі, як і наступстваў, выкліканых ёю, доўгі час была проста немагчымай, як, дарэчы, яшчэ не зроблена гісторыкамі і ў суверэннай цяпер ужо нашай дзяржаве. Ці не было гэта крокам у барацьбе за незалежнасць Беларусі ў сувязі са спадзяваннямі на міжнароднае пасляваеннае ўладкаванне на еўрапейскім кантыненце і ці не паўплывала гэта на тое, што БССР як член ААН прымала ў ім удзел (вядома ж, толькі фармальна, бо ўсё вырашала Масква).

У сувязі з наступленнем Чырвонай Арміі і вызваленнем ад германскіх войск беларускіх зямель на Захад выехалі беларускія арганізацыі, установы і ваенныя фарміраванні, створаныя на акупіраванай тэрыторыі — Беларуская цэнтральная рада (БЦР), галоўны штаб Саюза беларускай моладзі, Сабор епіскапаў Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, ваенныя атрады Беларускай краёвай абароны, а таксама частка інтэлігенцыі, святароў.

На эміграцыі БЦР прыняла новы статут (Берлін, студзень 1945 года), у якім зафіксавала сваімі мэтамі "арганізацыю беларускага народу для змагання за вызваленне Беларусі і здабыцце ейнае незалежнасці", прававую, сацыяльную і культурную апеку над замежнымі беларусамі. Яе кіраўніцтва спрабавала стварыць "Саюз вызвалення Беларусі", садзейнічала стварэнню ў кастрычніку 1944 года Беларускага вучэбнага кадравага батальёна, а ў 1945 годзе — першай грэнадзёрскай брыгады "Беларусь", 30-й грэнадзёрскай дывізіі "Беларусь", якая трапіла ў палон да амерыканцаў.

І такім чынам у ходзе другой сусветнай вайны на Захадзе склалася самая вялікая ў гісторыі беларускай эміграцыі палітычная плынь. Застацца ў чужых краях многіх з тых, хто воляю лёсу апынуўся на акупіраваных немцамі заходнееўрапейскіх тэрыторыях, падштурхнула антынародная палітыка таталітарнай сістэмы напярэдадні вайны (прымусовая калектывізацыя, дэпартацыі "раскулачаных", неабгрунтаваныя масавыя рэпрэсіі нацыянальнай інтэлігенцыі, а затым практычна ўсіх слаёў грамадства), а таксама адносіны да ваеннапалонных, якія агулам юрыдычна лічыліся здраднікамі (з'ява, немагчымая ў іншых дзяржавах).

Цяжка вызначыць, колькі беларусаў засталіся б за мяжой, калі б мелі права выбару краіны пражывання. Але ў адпаведнасці з рашэннем СНК СССР (кастрычнік 1944 года) аб рэпатрыяцыі савецкіх грамадзян ёй падлягалі ў абавязковым парадку ўсе, хто апынуўся за межамі СССР незалежна ад іх намераў.

Яшчэ ў гады вайны пачалося "паляванне" і на лідэраў палітычнай эміграцыі. Вядома, што калегія Вярхоўнага Суда БССР 29 студзеня 1944 вынесла прысуд (25 гадоў працоўна-папраўчых лагераў) Л. Геніюш, якая пражывала ў Празе (як асоба без грамадзянства) і была прызначана ў 1943 годзе Генеральным сакратаром БНР.

З тых тэрыторый, якія вызваліла Чырвоная Армія, савецкія рэпатрыяцыйныя камісіі арганізавалі вываз у СССР практычна ўсіх, незалежна ад іх памкненняў. Пры гэтым трэба адзначыць, што пераважная большасць жадала вярнуцца на радзіму (да сакавіка 1946 года, калі ў асноўным рэпатрыяцыя была завершана, у Саюз вярнуліся 520 тысяч беларусаў). Практычна ўсе яны ў той ці іншай форме зведалі недавер уладаў да іх, а рэпатрыянты-афіцэры (за нязначным выключэннем) пасля фільтрацыйных лагераў траплялі ў сістэму ГУЛАГа ці на спецпасяленне.

У англійскай, французскай і амерыканскай акупацыйных зонах былі створаны лагеры для перамешчаных асоб, у тым ліку і беларускія, якія арганізавалі нацыянальнае, культурна-грамадскае жыццё суродзічаў. Савецкія рэпатрыяцыйныя камісіі наведвалі іх, прымушаючы людзей да вяртання ў СССР, бо саюзнікі ў адпаведнасці з дамоўленасцямі на Ялцінскай канферэнцыі падтрымлівалі прымусовую рэпатрыяцыю савецкіх грамадзян (аж да 1947 года). Па звестках Беларускага Нацыянальнага Камітэта (у Заходняй Германіі), 75—100 тысяч беларусаў не жадалі вяртацца ў СССР па розных прычынах, пры гэтым дзве трэці іх паходзілі з Заходняй Беларусі. Дарэчы, як былыя грамадзяне даваеннай Польшчы, яны мелі магчымасць, змяніўшы нацыянальнасць, пазбегнуць звароту ў СССР. Засталіся на эміграцыі і беларусы польскага корпуса генерала Андэрса.

## ТРЭЦЯЯ ХВАЛЯ МІГРАЦЫІ. НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ДЫЯСПАРА Ў ДРУГОЙ ПАЛОВЕ 40-х—80-х ГАДОЎ

Пасляваенная эміграцыйная хваля складае аснову сучаснай нацыянальнай заходняй дыяспары, якая практычна не папаўнялася да апошняга часу ў сувязі з адсутнасцю права на эміграцыю з СССР. Захавалі ўсведамленне сваіх нацыянальных каранёў многія нашчадкі (дзеці і ўнукі) папярэдніх эміграцыйных хваляў.

Пасля вайны ў ЗША і Канадзе пасяліліся прыкладна па 50 тысяч імігрантаў беларускага паходжання. Дзесяткі тысяч іх аселі ў Францыі, Бельгіі, Германіі, а таксама новых цэнтрах — Англіі і Аўстраліі. Ад 250 да 400 тысяч беларусаў Беласточчыны на сваіх этнічных землях апынуліся ў Польшчы ў выніку палітычных гульняў савецкага кіраўніцтва пры вызначэнні пасляваеннай дзяржаўнай граніцы СССР. У жніўні 1945 года ПНР адышлі 17 раёнаў Беластоцкай і 3 раёны Брэсцкай абласцей. У ходзе ўзаемнай пасляваеннай рэпатрыяцыі ў сувязі з гэтым невялікая частка беларусаў (36 тысяч) пераехала ў БССР, але ў ліку 274 тысяч тых, хто перасяліўся за 1945—1947 гады ў Польшчу, было нямала беларусаў-католікаў, якія па розных прычынах аднеслі сябе да палякаў (боязь атэістычнага ўціску, калгаснасаўгаснага ладу).

**Галіна СЯРГЕЕВА.**

Працяг.
Пачатак у №№ 44—45.



**Другое жыццё набыў пасля поўнай рэстаўрацыі Домік паляўнічага, пабудаваны ў Гомелі ў 1820 годзе. У ім мяркуецца размясціць музей і ўзнавіць абстаноўку часоў князя Паскевіча, які заснаваў Гомельскі палацава-паркавы ансамбль.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

### ТРЫ ГАДЫ РАЗАМ З ХВЕДАРАМ ІЛЬЯШЭВІЧАМ

# ВАТЭНШТЭТ — «БЕЛАРУСКАЯ ВЁСКА»

Хіба ніхто не правёў больш часу з Хведарам Ільяшэвічам, як я ў пасляваенныя гады. Пераехаўшы з польскага пераходнага лагера Фленсбург (каля граніцы з Даніяй), я трапіў у Ватэнштэт — "Беларускую вёску", аб якой я і некалькі маіх сяброў ужо ведалі, таксама, як некаторыя ватэнштэтцы ведалі аб нас і скуль мы прыехалі. Таму здавалася, што нібыта мы едзем дамоў, і ў лагеры нас віталі нашы сябры з вялікай радасцю. Некалькі першых тыдняў было неяк няўтульна: баракі паўразбураныя, вялікі брак жылых памяшканняў, але ўсё ж такі неяк трэба было жыць. Непакоіла і тое, што супраць нашага лагера, толькі праз галоўную дарогу, быў размешчаны савецкі рэпатрыяцыйны лагер. Але, дзякуючы англійскім акупацыйным уладам, камуністычныя правакатары не мелі права прыходзіць у наш лагер і нагаворваць або прымусова некага забраць на "родину". Крыху пазней, як наш лагер разросся, было адно здарэнне, калі два ці тры савецкія палітрукі ў прысутнасці з англійскай вайсковай апекай "завіталі", няпрошаныя, да нас і было агалошана, што кожны, хто жадае паслухаць іхніх прамоваў, можа смела прыйсці ва ўказанае памяшканне. З цэлага лагера знайшлося 5—6 "смельчакоў", яны слухалі, як у пасляваенным СССР жыве вольна і свабодна "советский человек". А тым часам нехта абліў савецкую машыну бензінам і кінуў туды запалку. Вось так і скончыліся першыя і апошнія перагаворы паміж намі і савецкімі палітрукамі. З бегам часу наш лагер пачаў разрастацца. Дзякуючы клапатлівым захадам каменданта нашага лагера Святаслава Каўша, англійскія ўлады і УНРРА пачалі больш клапаціцца аб нашым штодзённым жыцці.

Трэба сказаць, што кожны прыезджы ў лагеры працаваў з закасанымі рукавамі. Адзін другому памагалі, але ўсё роўна найбольшай праблемай быў брак памяшканняў. Мы ведалі, што шмат беларусаў, апынуўшыся ў польскіх, украінскіх ці

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

# КАСТРЫЧНІК 17-га. ПОГЛЯД З 97-га

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

А вось калі патрабавалася высветліць пралетарскі характар Кастрычніцкай рэвалюцыі і яе адпаведнасць марксізму, — тады, наадварот, нанізвалі на вудачку факты апярэджання Расіяй Захаду па тэмпах прамысловага развіцця ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзяў і ступені канцэнтрацыі рабочага класа на буйных прадпрыемствах. Другі прыклад і зусім элементарны.

Зразумеўшы, што на многія пытанні, якія тычацца гісторыі расійскіх рэвалюцый, адказы будуць мяняцца, звернем увагу на тыя факты, якія ўжо цяпер дазваляюць унесці яснасць у мітусню і пазбегнуць неабходнасці выбіраць толькі паміж крайнімі пунктамі погляду.

Галоўны такі факт — гэта, бадай, тое, што сацыяльнае незадавальненне ў 1917 годзе дасягнула крытычнай кропкі, набыло яўную палітычную накіраванасць і не паддавалася рэгуляванню існуючай сістэмай. Нізы ўжо беспаваротна не хацелі жыць па-старому, а вярхі не маглі кіраваць па-старому (у гэтым Ленін цалкам меў рацыю). Немагчымасць кіраваць па-старому пры неразуменні, як трэба кіраваць па-новаму (ці быў увогуле для існуючай улады шанс кіраваць па-новаму — гэта асобнае вялікае пытанне), загубіла і царскі ўрад, і Часовы, і многія іншыя рэжымы... І колькі яшчэ загубіць, хто наступны, лепш не гадаць...

Царскія турэмшчыкі ставіліся больш ліберальна да рэвалюцыянераў, чым рэвалюцыянеры, прыйшоўшы да ўлады, ставіліся да контррэвалюцыянераў, а таксама ўласных братоў-рэвалюцыянераў, аднак дзесяткі мільёнаў людзей жылі ва ўмовах, якія яны яшчэ з пачатку XX стагоддзя, год за годам, сталі ацэньваць як непрымальныя для сябе.

"Вялікае перасяленне" двух з паловай мільёнаў сялян у Сібір, Забайкалле і Сярэднюю Азію ў выніку сталыпінскай рэформы адкрыла шлюзы з'яўленню моцных фермерскіх гаспадарак і, значыць, развіццю капіталістычных адносін у вёсцы. Ці не аказала б гэта стымулюючае ўздзеянне на развіццё сялянскага земляробства ў еўрапейскай частцы Расіі, калі б не сусветная вайна?!

Рашаючай умовай рэвалюцыйнага выбуху ў кастрычніку 1917 года стала першая сусветная вайна, якая забрала мільёны жыццяў і прывяла краіну да эканамічнай разрухі, парадзіла вялікую ўзрыванебяспечную сілу — акопных салдат, якія ўсё менш разумелі, за што яны ваююць; дэзерціраў (да восені 1919 года іх было каля 2 мільёнаў чалавек), якім рэвалюцыя абяцала збаўленне ад адказнасці; гарнізонныя кантынгенты, асабліва ў Петраградзе, што ніяк не жадалі адпраўляцца на фронт. Калі для рабочых улада Саветаў сімвалізавала самакіраванне з няяснымі ў тых умовах эканамічнымі перспектывамі, то для радавога і ўнтэр-афіцэрскага саставу расійскай арміі яна азначала самае элементарнае выжыванне.

Такім чынам, хоць і правільна, што рэвалюцыі спачатку адбываюцца ў розумах людзей, у падзеях "сямнаццатага года" ў Расіі больш важкім быў іншы фактар: стыхійны лавінападобны рост незадаволенасці шырокіх слаёў народа, выкліканы рэзкім зніжэннем узроўню жыцця і абвастрэннем усіх грамадскіх супярэчнасцей ва ўмовах раптоўнай палітычнай свабоды і аморфнасці ўлады.

У адносінах да Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый варта, такім чынам, адказаць сцвярджальна на пытанне, ці былі гэтыя падзеі святам прыгнечаных і эксплуатуемых, і адмоўна на пытанне, ці здзейсніліся яны ў выніку злой волі бальшавікоў. І воля бальшавіцкая, і прапаганда ў гэты перыяд адпавядалі рэвалюцыйным настроям большай часткі народа — пры натуральнай (як і ва ўсіх рэвалюцыях) пасіўнасці другой яго часткі.

**ПАРТЫЯ ВА ЎЛАДЗЕ І "ПРОСТЫЯ ЗАКОНЫ МАРАЛІ І СПРАВЯДЛІВАСЦІ"**

Гуманізму бальшавікоў хапіла на тое, каб выпусціць, прычым двойчы (у лістападзе 1917-га і ў студзені 1919 гадоў), арыштаваных міністраў Часовага ўрада ўзамен на абяцанне не шкодзіць новай уладзе. Мяцежных юнкераў і генералаў вызвалялі пад распіску наступнага зместу: "Даю слова гонару не выступаць узброенай сілай супраць Савецкага ўрада і не заклікаць да гэтага іншых". Прычым каго вызвалілі! Сваіх лютых ворагаў: чарнасоценца Пурышкевіча і генерала Краснова! Як у байцы Крылова — кінулі шчупака ў раку.

Цяжка, вельмі цяжка сённяшняму чалавеку зразумець псіхалогію і матывацыю дзеянняў бальшавікоў. Для гэтага трэба ўсёй скурай адчуць рэвалюцыйны фанатызм, народжаны з пранізлівага спачування прыгнятаемым і прагі сацыяльнай справядлівасці; непрыняцце ўсіх класава чужых норм і нянавісць не толькі да схематычна акрэсленага варожага класа, але і да яго канкрэтных прадстаўнікоў; захапленне ўладай і сляпую веру ў тое, што цяпер можна павярнуць усё, як трэба; безразважную храбрасць гладыятараў, якім губляць няма чаго.

Можна апраўдваць ці асуджаць бальшавікоў "сямнаццатага года", але зразумець іх цяжка!

Ракавую ролю, думаецца, адыгралі прадчуванне грамадзянскай вайны і гатоўнасць у любы момант даць "апошні, рашучы бой", якія прасочваліся ў розумах бальшавікоў на працягу другой паловы 1917-га і ў пачатку 1918 гадоў. Няма сумнення, што яны імкнуліся пазбегнуць кровапраліцця, а мозг Леніна пастаянна (пра гэта сведчаць яго выступленні і артыкулы) быў заклапочаны вышукваннем часу і ўмоў, калі Саветы маглі ўзяць уладу мірным шляхам. Але ўсё ж каштоўнасць мірнага пераходу да ўлады Саветаў саступала ў іх вачах каштоўнасці самой улады Саветаў: першая была адноснай, другая абсалютнай.

Ленін бліскуча ўгадаў тыя дні ў кастрычніку, калі рэвалюцыя магла адбыцца амаль бяскроўна. Сапраўды, толькі шэсць чалавек загінулі ў Петраградзе 24 кастрычніка (параўнайце з сотнямі забітых у сталіцы ў Лютаўскай рэвалюцыі). Але калі пасля звяржэння Часовага ўрада атакуючым бокам стала контррэвалюцыя, угадваць гэтыя моманты, што неслі мір, стала больш складана. Да таго ж спрацоўвалі ўзмоцненае пачуццё сілы і самаапраўданне тых, хто абараняўся. Таму, калі сталі нараджацца і множыцца кадэцкія і праваэсэраўскія змовы, разросся мяцеж Каледзіна на Доне, Красноў, Пурышкевіч і іншыя, якім даравалі, слова сваё бессаромна парушылі, узмацняўся сабатаж, ажывіліся анархісты і крымінальнікі, Саўнарком прыняў 21 лютага 1918 года па ініцыятыве Леніна дэкрэт "Сацыялістычная айчына ў небяспецы!", які абвяшчаў: "Непрыяцельскія агенты, спекулянты, грамілы, хуліганы, контррэвалюцыйныя агітатары, германскія шпіёны расстрэльваюцца на месцы злачынства". Менавіта з гэтага часу ВЧК, якая першапачаткова выконвала функцыі вышуку і папярэдняга следства, стала карным мячом рэвалюцыі.

І Вялікая французская, і Кастрычніцкая рэвалюцыі засведчылі: тэрарыстычныя акцыі пачынала контррэвалюцыя, якая імкнулася застрашыць, абезгаловіць, падавіць новую ўладу; рэвалюцыя адказвала на гэта масавым чырвоным тэрорам, пасля чаго ішла ўзаемная эскалацыя насілля, і кроў лілася ракой. Так было пасля забойства Марата і пакарання смерцю Шалье; так было пасля забойства Валадарскага і Урыцкага і замаху на Леніна. У адказ на забойства Урыцкага ў Петраградзе было расстраляна 500 прадстаўнікоў былых прывілеяваных класаў. Трагічная іронія лёсу заключалася ў тым, што індывідуальны тэрор вяршылі, як правіла, эсэры, а расплачваліся за гэта людзі большай часткай да яго не толькі недатычныя, але ўвогуле далёкія ад эсэраўскай партыі. Грамадзянская вайна яшчэ менш адрознівае невінаватых і вінаватых, чым вайна паміж дзяржавамі.

Зручная формула "на вайне як на вайне" прыдумана не бальшавікамі. Аднак партыя, што аб'явіла сваёй мэтай карэнную ломку грамадскіх адносін, павінна была б задумацца, чаму яна, рашуча адхіліўшы многія старыя нормы маралі, у даным выпадку, па сутнасці, узяла на ўзбраенне (і яшчэ як узяла!) амаральнасць, якая была ўласцівая ўладным людзям на працягу ўсёй чалавечай гісторыі. Калі ўжо гаварыць аб "перажытках" у свядомасці "новага" паслярэвалюцыйнага чалавека, то галоўны з іх, з якім нават не спрабавалі змагацца, — гэта заалагічны інстынкт помсты. Так, грамадзянская вайна — не лепшы час для маральнага выхавання; так, не толькі індывідуальны, але і масавы тэрор спачатку быў белым (белагвардзейскія мяцяжы ў Яраслаўлі, Рыбінску і іншых волжскіх гарадах у чэрвені 1918 года, калі заколвалі, расстрэльвалі, тапілі ўсіх, хто спачуваў Саветам). Аднак як жа будаваць горад-сад на касцях і крыві? Якім чалавечым матэрыялам?

Толькі цяпер, маючы статыстычныя даныя і дакументы, што набылі галоснасць і выкрываюць беззаконне, якое ўчынялася ад імя рэвалюцыі, мы ў стане зразумець, наколькі дэфармаванымі аказаліся самі душы будаўнікоў новага грамадства. "Ворага ці таго, каго лічыш ворагам, можна ці знішчыць, ці ізаляваць. Гэта пытанне мэтазгоднасці, гэта справядліва, законна, зразумела, гэта па-камуністычнаму". Божа праведны, гэтыя ж радкі былі напісаны не ў 1919 годзе, а ў 1935-м; не саплякам-чэкістам, які ўпершыню ўзяў у рукі наган, а былым членам Палітбюро РКП(б), саратнікам Леніна; не ў момант суда над "шкоднікамі", а калі ён (Каменеў) сам сядзеў у турме.

Усё гэта і было найгоршай спадчынай грамадзянскай вайны — тое, што плоць і кроў людзей (як "наверсе", так і "ўнізе") паразіў вірус улады, заснаванай на прымусе і грэбаванні ахвярамі і пакутамі, якія апраўдваліся тэорыяй класавай барацьбы. Калі ў 30-х гадах стала ўжо здавацца, што можна нарэшце адпачыць ад насілля, Сталін падправіў тэорыю, узбагаціўшы яе тэзісам аб абвастрэнні гэтай барацьбы па меры пабудовы сацыялізму.

Грамадзянская вайна ўзмацніла класавую ангажыраванасць бальшавікоў, хаця жудаснае разбурэнне краіны павінна было б іх падштурхнуць да ідэі агульнанацыянальнага прымірэння і аб'яднання намаганняў усіх сацыяльных слаёў і груп.

У асэнсаванні адносін паміж класамі была дапушчана велізарная, можна сказаць, ракавая памылка, канстатацыя якой істотна мяняе былыя трактоўкі гістарычнага сэнсу Кастрычніка. З бясспрэчнага факта, што клас, які налічваў 10 працэнтаў насельніцтва, быў лепш арганізаваны і ўзброены, бальшавікі зрабілі вывад, што ён можа не столькі эканамічнымі, колькі пазаэканамічнымі метадамі далучыць да сацыялізму клас, які складаў 80 працэнтаў насельніцтва. Вельмі разлічвалі пры гэтым на сілу пераканання, але калі не атрымлівалася, без ваганняў прымянялі прымус. На харчовую развёрстку ў 1918—1919 гадах пасылалі ўзброеныя атрады, колькасць якіх дасягала 60 тысяч чалавек, а калі ў пачатку 1921 года прыняў пагражальныя памеры антонаўскі мяцеж у Тамбоўскай губерні, то ў адзін гэты рэгіён было кінута 50 тысяч салдат і кавалерыстаў. М. Тухачэўскі, які камандаваў падаўленнем мяцяжу, з ваеннай праматой і трапнасцю назваў даную аперацыю "цэлай вайной" і "не з бандамі, а з усім мясцовым насельніцтвам", з канчатковай мэтай "поўнай акупацыі раёна, які паўстаў..."

А што, уласна, дзіўнага? Усе правіцелі заўсёды так і ставіліся да народа. З патрыманіяльнай благадушнасцю працягвалі пернік у дні спакою і паслушэнства; гнеўна хапаліся за пугу, калі дэмас станавіўся непаслухмяным. Мы цяпер пастаянна паўтараем сабе і іншым, што мы — прадукт свайго часу, бальшавікі ж тым больш і ў поўнай меры былі прадуктам свайго. Толькі ў адрозненне ад нас у іх было мала шансаў зразумець, што палітычнай свабоды не бывае без эканамічнай, а не прыціснуты страхам пакарання вольны чалавек працуе ініцыятыўней і прадукцыйней, чым несвабодны. Не палітык, не тэарэтык, а проста сумленны і разумны пісьменнік Сент-Экзюперы бліскуча сказаў: "Лёгка заснаваць парадак у грамадстве, падпарадкаваўшы кожнага яго члена пэўным правілам. Лёгка выхаваць сляпога, які, не пратэстуючы, падпарадкаваўся б павадыру ці карану. Наколькі ж цяжэй вызваліць чалавека, навучыўшы яго ўладарыць над сабой".

Вось гэтай, можа быць, сваёй галоўнай задачы, больш важнай, чым "дагнаць і перагнаць", першая ў свеце рэвалюцыя, здзейсненая ў імя сацыялізму, не выканала.

Барацьба са сродку дасягнення мэты ператварылася пасля 1917 года ў саму мэту.

Сацыялісты заўсёды былі схільныя ставіць канчатковыя утапічныя, ім непадуладныя мэты (поўная ўсеагульная роўнасць, усім па патрэбах) і ісці да іх, абапіраючыся на догмы (схематызацыя класаў, спадзяванне на ідэі і правадыроў).

Як і ўсякая рэвалюцыя, Кастрычнік 1917 года некага ўзнёс, а некім ахвяраваў. Рэвалюцыі іншымі не бываюць, тым, хто цяпер не прымае Кастрычнік, відаць, варта вызначыцца ў адносінах да рэвалюцый увогуле. Мы ніколі не зможам дакладна сказаць, якім быў бы лёс Расіі (дзяржавы, народаў, класаў, груп, людзей), калі б не перамаглі бальшавікі, а яшчэ раней не рухнуў царызм. Тут прастора для гіпотэз, і нават пятачка няма для ісціны.

Але пад любым пунктам погляду (гістарычным, тэарэтычным, маральным) несумненны вялікі ўрон, пасылкі якога былі закладзены ў самім Кастрычніку — падрыў стваральнага патэнцыялу сялянства і інтэлігенцыі. Несумненная і згубнасць ператварэння дзяржавы ў гіганцкага манапаліста, што валодае грамадствам; гэты працэс пачаўся неўзабаве пасля Кастрычніка. Сацыялістычная ідэя абагулення абярнулася практыкай адзяржаўлення (вось чаму, магчыма, яшчэ не прыйшоў час канчаткова расстацца з ілюзіямі адносна грамадскай карыснасці гэтай ідэі; хто ведае, можа быць, яна ўвасобіцца пры іншым чалавецтве з іншай мараллю?).

Вялікі ўрон абавязвае вынесці такі ж значны ўрок. У галоўным ён паказвае, што самыя цяжкія выпрабаванні выпадаюць на долю краін і народаў, калі яны аказваюцца выпрабавальным палігонам для абстрактных схем, якія канструююцца асобнымі людзьмі ці групамі людзей. Як зрабіць, каб схема, непазбежна абстрактная да рэвалюцыі, неабходным чынам скарэкціравала сама сябе пасля рэвалюцыі, стаўшы карыснай не толькі для праекціроўшчыкаў, але і для самых шырокіх народных мас?

**Ігар КУЗНЯЦОЎ.**

## III МІЖНАРОДНЫЯ КУПАЛАЎСКІЯ ЧЫТАННІ

# «О, ВІЛЬНЯ, КРЫВІЦКАЯ МЕККА!»

Канец кастрычніка ў Мінску быў багаты на міжнароднае сумоўе ў галіне беларускай культуры. 20—21 кастрычніка Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы ладзіў III Міжнародныя Купалаўскія чытанні "Янка Купала — публіцыст", а Нацыянальная бібліятэка Беларусі, адзначаючы свае 75-я ўгодкі, правяла 23—24 кастрычніка Міжнародную навукова-практычную канферэнцыю "Бібліятэка ў сучаснай інфармацыйнай прасторы".

Хочацца перш-наперш адзначыць даклады гасцей III Міжнародных Купалаўскіх чытанняў і сяброў Міжнароднага фонду Я. Купалы з ЗША Вітаўта Кіпеля — дырэктара Беларускага інстытута навукі і мастацтва (Нью-Йорк) "Успрыняцце Купалы ў дыяспары"; з Расійскай Федэрацыі Аляксея Каўкі — вядучага навуковага супрацоўніка Інстытута сусветнай літаратуры імя М. Горкага (Масква) "Свае і чужыя ў Купалавай трактоўцы", а таксама Зору Кіпель і Анатоля Кірвеля



(Санкт-Пецярбург), якія выступілі ў дыскусіях. Увогуле было заслухана 29 цікавых дакладаў, якія далі шырокае ўяўленне пра markрознабаковую дзейнасць Янкі Купалы як публіцыста-адраджэнца пачатку стагоддзя, што вельмі сугучна сучаснаму стану беларускага грамадства. І гэтую сугучнасць прасачыў Ніл Гілевіч у сваім дакладзе "Публіцыстыка Янкі Купалы і сучаснасць". Яшчэ ў 1919 годзе Янка Купала зваў беларускі народ: "Час праявіць нам і свае сілы ў будаванні новага жыцця для сваёй бацькаўшчыны, для сваіх сяліб і хат, для нашага падрастаючага маладога пакалення!", а не чакаць, "...што вось нехта прыйдзе і гэта наша ліха пабярэ з сабою". Ён тады раіў беларусам мець "больш смеласці к будаванню свайго новага незалежнага жыцця" (з артыкула "Больш самачыннасці").

Вельмі ўзбагацілі чытанні дзве імпрэзы, што адбыліся 20-га кастрычніка. Першай імпрэзай сталася выстава, якая працягнула нітачку ад даклада загадчыцы аддзела Музея Янкі Купалы Фаіны Ваданосавай "Публіцыстычныя творы Янкі Купалы ў экспазіцыйным кантэксце музейнай работы" да арганізаванай ёю выставы "У сугуччы культур. Віленскія постаці беларусаў".

Выстава дакументальна праілюстравала публіцыстычную дзейнасць Янкі Купалы ў Вільні пачатку XX стагоддзя і яго цесную сувязь з усімі беларусамі-віленчукамі таго часу, якія разам працавалі ў былой фактычнай сталіцы Беларусі — Вільні на ніве адраджэння беларускай нацыі і стварэння незалежнай дзяржавы.

Пры адборы дакументаў і фатаграфій Ф. Ваданосава ўдала спалучыла багатыя архіўныя матэрыялы Сяргея Панізьніка, Дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва і ўласна Дзяржаўнага літаратурнага музея Я. Купалы. Яны дапаўняюць адзін аднаго і ствараюць агульную карціну беларускага культурнага жыцця Вільні пачатку стагоддзя.

У выніку выстава праілюстравала, што ў пачатку XX стагоддзя Вільня была сапраўднай сталіцай для беларускага народа, бо менавіта тут дзейнічалі "Беларускае навуковае таварыства", "Беларуская гімназія", "Беларускія вучэбныя курсы", "Таварыства беларускай школы", "Беларускі музей" (1921—1947), "Беларускі музычна-драматычны гурток" (1910—1916), "Беларускі клуб" (1916—1920), "Беларуская драматычная майстроўня" (1922—1924). Тут дзейнічалі беларускія друкарні М. Кухты і "Znicz"; "Беларускае выдавецкае таварыства" (1913—1915, 1919—1930), Я. Купала быў яго сакратаром у 1913—1914 гадах; выдавецтвы Б. Клёцкіна (1913—1931), В. Ластоўскага і "Наша хата". У Вільні выдаваліся беларускія газеты "Наша доля" (1906), "Наша ніва" (1906—1915), "Беларуская доля" (1915), "Беларуская крыніца" (1919—1940), "Беларускія ведамасці" (1921—1922), "Беларуская ніва" (1925—1926), "Беларуская справа" (1926), "Беларуская газета" (1933—1934) і іншыя; часопісы "Саха" (1912—1914), "Лучынка" (1914), "Беларуская культура" (1927), "Беларускі летапіс" (1933—1939) і інш.

У Вільні беларусы вялі актыўную выдавецкую дзейнасць, у тым ліку тут друкаваліся першыя беларускія падручнікі. Як прыклад гэтай дзейнасці на выставе мы бачым "Школьны спеўнік" А. Грыневіча з малюнкамі Я. Драздовіча, "Беларускую граматыку для школ" Б. Тарашкевіча (1910) і інш. Тут жа выстаўлены друкаваныя ў Вільні лацініцай беларускія кнігі і падручнікі.

З прыемнасцю чытаюцца віншавальныя лісты да рэдакцыі "Нашай нівы" ў сувязі з яе трохгадовым юбілеем беларускіх студэнтаў Юр'еўскага універсітэта (г. Тарту), сярод якіх згадваюцца прозвішчы такіх вядомых у 20-я—30-я гады дзеячаў беларускага адраджэнскага руху, як Усевалад Ігнатоўскі, першы дырэктар Інбелкульта, і Васіль Друшчыц, вядомы гісторык, супрацоўнік Інбелкульта.

На выставе можна ўбачыць і справаздачу "Временного комитета по делам печати в Вильне" ад 17.02.1915 г. № 105 пра канфіскацыю 580 экземпляраў газеты "Наша ніва" № 2 (з агульнага тыражу 1 500 экземпляраў) за друкаванне на яе першай старонцы артыкула "Думкі" на "белорусском наречии"; пракурорскія лісты па нагляду за дзейнасцю Івана Луцкевіча, а таксама ліст з "уголовной" справы "О наложении ареста № 2 еженедельной газеты на белорусском наречии "Наша нива" 29.01.1915 г."

З вітрын, у якіх дакладна падабраны дакументы і фотапартрэты, на нас глядзяць прыгажуні: беларуская актрыса Паўліна Мядзёлка, якая вучылася ў Беларускім музычна-драматычным гуртку, і тут адбыліся яе першыя спектаклі; будучая жонка Я. Купалы Уладзіслава Станкевіч з сяброўкай Я. Родзевіч. Род апошняй таксама ўнёс уклад у беларускую культурную справу. Тут жа мы бачым фотапартрэты знакамітай беларускай паэткі Н. Арсенневай; маладых Янку Купалу і Якуба Коласа нашаніўскай пары (1907—1909 гады). Значную цікавасць маюць беларускія кнігі, выдадзеныя ў Вільні, якія да апошніх год знаходзіліся ў спецхране.

Асобныя вітрыны прысвечаны дзейнасці такіх вядомых беларускіх дзеячаў Вільні, як Зоська Верас, якую можна ўбачыць на фота зусім маладой і ўжо 90-гадовай жанчынай; нашай паэтцы і нацыянальнаму публіцысту Цётцы, два фотаздымкі якой мы бачым упершыню, як і яе зборнік вершаў "Skrypka Bilaruskaia" 1918 года і верш Я. Купалы "Аўтарцы "Скрыпкі Беларускай"...

**Чутка йграеш, гулка йграеш**
**Ты на скрыпачцы сваёй,**
**К небу з думкай падлятаеш,**
**Шчасця зычыш для людзей.**

Глядач убачыў на выставе фота Б. Тарашкевіча і яго замежны пашпарт "як члену беларускай дыпламатычнай місіі ў Варшаве", які быў падпісаны ад імя ўрада БНР Аркадзем Смолічам 31.05.1919 года.

Прыемна аглядаць фотапартрэты і дакументы пра дзейнасць у Вільні такіх дзеячаў беларускага Адраджэння, як В. Ластоўскі і В. Іваноўскі, Я. Купала і Я. Колас, Б. Эпімах-Шыпіла і А. Бурбіс, Іван і Антон Луцкевічы, А. Грыневіч і Гальяш Леўчык, Л. Родзевіч і Я. Лагіновіч, Л. Рагоўскі і Р. Зямкевіч, М. Гарэцкі і Тамаш Грыб, М. Багдановіч і інш.

Увогуле выстава дакументальна пацвярджае тэзіс, што Вільня была цэнтрам беларускай культуры ў пачатку XX стагоддзя.

Другая імпрэза развівала гэтую ж ідэю, але пачатак крэўнай сувязі Вільні як цэнтра беларускай культуры згадваўся ад часоў яе ўзнікнення, ад сярэднявечча, і называлася яна — Літаратурна-музычная вечарына "О, Вільня, крывіцкая Мекка!" (словы з верша У. Жылкі).

Увогуле цудоўны вершаваны змест вечарыны, які закранаў душы ўсіх прысутных, быў пабудаваны на складзенай С. Панізьнікам (але яшчэ не надрукаванай) анталогіі вершаў беларускіх паэтаў, прысвечаных Вільні: Д. Бічэль-Загнетавай, М. Танка, Мар'яна Дуксы, В. Іпатавай, П. Марціновіча, Р. Барадуліна, В. Зуёнка, З. Пазняка, У. Жылкі, Цёткі, Я. Купалы, Р. Белячыца, Я. Сіпакова, А. Бадака, М. Багдановіча, С. Сокалава-Воюша, Ігара і Міколы Пракаповічаў, Л. Геніюш, А. Лойкі. Пералік паэтаў пададзены ў тым парадку, як іх закампанавала Антаніна Хатэнка — сцэнарыст, рэжысёр і вядучы выканаўца вечарыны. Ёй дапамагалі вучні мастацкага каледжа і гімназіі № 204, што месціцца па вуліцы Голубева ў Мінску. Пранікнёна спяваў тут і Алесь Камоцкі пад акампанемент гітары, як многія іншыя навучэнцы гімназіі і каледжа. Дзяўчаткі вельмі прыгожа ігралі на флейтах пад акампанемент цымбал паланезы М. Агінскага "Развітанне з Радзімай" і інш. Высокі эмацыянальны і ўзрушаны настрой вершавана-музычнага пераказу гісторыі Беларусі, цесна звязанай з Вільняй ад закладання горада крывічамі да нашых дзён, надавала вядучая вечарыны А. Хатэнка. Яе кожнае слова ішло ад самага сэрца. У час гэтай імпрэзы паэтка і публіцыстка А. Хатэнка праявіла схаваны да часу талент сапраўднай драматычнай актрысы. Гэтую імпрэзу варта паўтарыць у многіх аўдыторыях сярод студэнтаў і навучэнцаў школ, запісаць на радыё, на дыскетах, паказаць на тэлебачанні, выдаць асобнай кніжачкай. У кароткай змястоўнай і па-мастацку прывабнай форме глядач, слухач і чытач імпрэзы можа атрымаць цікавую і карысную інфармацыю па гісторыі Беларусі, што ў цяперашні час — цікаўнасці людзей да сваёй мінуўшчыны — вельмі важна. У завяршэнне А. Хатэнка прамовіла: "І ўзніклі дзве Літвы: адна, што носім мы ў сэрцы, і другая ўжо не нашая Літва. Тут званы расійскія, там званы польскія, але пад "Пагоняй" адной".

Вось некаторыя чатырохрадкоўі з гэтай імпрэзы:

**Мінск, Маладзечына, Вільня...**
**Як жа знаёмы шлях гэты!**
**Змерыў яго я калісьці,**
**Як шукаў шчасця па светах.**

**Янка КУПАЛА.**

**Толькі ў сэрцы трывожным пачую**
**За краіну радзімую жах, —**
**Ўспомню Вострую Браму святую**
**І ваякаў на грозных канях.**

**Максім БАГДАНОВІЧ.**

**Не знаю, што магло расчуліць**
**Мяне між вільнюскіх муроў.**
**Мо тое, што тут столькі вуліц**
**З імёнамі маіх сяброў!**

**Максім ТАНК.**

**О, Вільня, крывіцкая Мекка!**
**О, места, — ўсё цуд, хараство!**
**Дзяржаўная думнасць павекаў,**
**Узнята рашуча брыво!**

**Уладзімір ЖЫЛКА.**

**Ты — люстэрка Літвы, горад мой,**
**Кубак з радасцю і бядой.**
**Праўды звон і крыўды аброць,**
**Косць вякоў і новая плоць.**
**Сам у зменах, мяняючы нас,**
**Пранясі нашу памяць праз час.**

**Васіль ЗУЁНАК.**

Увогуле 20 кастрычніка ў Дзяржаўным музеі Янкі Купалы было што паглядзець і тым больш паслухаць з карысцю для душы і розуму. Такім чынам музей ладзіць шырокую асветную працу для сваіх наведвальнікаў па праблематыцы "У сугуччы культур".

**Мая ЯНІЦКАЯ.**

*ПРЭМ'ЕРЫ*



**У Дзяржаўным тэатры юнага гледача новы сезон адкрылі прэм'ерай — казкай Карла Гоцці "Шчаслівыя жабракі". Гэта музычная трагікамедыя, пастаўленая сучаснымі аўтарамі ў манеры перабольшанай пародыі.**

**Інсцэніроўку п'есы Гоцці і пастаноўку спектакля ажыццявіў рэжысёр з Масквы Мікалай Шайко.**

**НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля.**

**Фота Мікалая ПЯТРОВА.**

## «ЗА РАКОЮ НАРВАЙ СТАЛІ»

Беларусы Беласточчыны вядомыя сваімі песнямі далёка за межамі сучаснай Польшчы і Беларусі. Беларускія музычныя ансамблі з Падляшша дэманстравалі сваё мастацтва ў многіх краінах. Усё часцей выпускаюцца касеты з запісамі іх выступленняў. Народная музычная творчасць беларусаў Польшчы становіцца даступнай вельмі шырокаму колу людзей на розных кантынентах.

Вялікае беларускае сяло Рыбалы, размешчанае на правабярэжжы Нарвы, славутае і сваім мужчынскім хорам "Хлопцы рыбалоўцы". Нядаўна выдадзеная касета з запісам песень Мікалая Ігнацюка і Аляксандра Раманюка ў выкананні хору, кіруемага Янам Бурносам, прымушае адгукнуцца на гэтую падзею, адметную не толькі ў культурным жыцці Падляшша.

Жыхары буйных гарадоў даўно сумуюць па чысціні падобных напеваў, вельмі блізкіх да сапраўды народных. У мелодыцы хору адчуваецца і ўплыў царкоўных песнапенняў. Асабліва пры выкананні "Усходзіць ясна сонца над зямелькай нашай". Тут жа адначасова ясна выступаюць і старажытныя глыбінна народныя вобразы: "Усіх тут адкарміла нас зямелька маці", вечнае філасофскае гучанне якіх сёння не толькі не затухнула, але ўзмацнілася. Асобныя песні як бы працягваюць традыцыю славутых Богагалоснікаў, перш за ўсё "Змрок вячэрні". Добрая палова прадстаўленага рэпертуару звязана з падзеямі другой сусветнай вайны: "На кургане", "У 41-м годзе", "Чорна хмара", "У баю пад Нарвай" і інш. Вельмі запамінаецца блізкая да ігравой "Дзеўкі пасварылісь". Ні ў чым не саступае лепшым узорам народнай песеннай любамудрасці "Як хуценька праходзяць годы маладыя".

Хочацца пажадаць рыбалаўскаму ансамблю далейшых поспехаў і спадзявацца, што неўзабаве мы зможам пачуць новыя запісы іх выступленняў. Магнітафонная стужка, а магчыма і кампакт-дыск данясуць у дамы далёкіх і блізкіх слухачоў гучанне беларускіх напеваў Польшчы. Іх хочацца слухаць зноў і зноў і нам у Маскве. Хочацца слухаць не толькі масквічам-беларусам, але ўсім, каму дарагая тысячагадовая сялянская культура, славянская народная творчасць.

**Юрый ЛАБЫНЦАЎ.**

Масква.



**Каваль Юрый ФУРС (на здымку) прывёз з Пастаў на выставу ў Віцебск дэкаратыўныя рамкі і рашоткі, падсвечнікі, іншыя вырабы з металу. Яны карысталіся ўвагай не толькі знатакоў мастацтва, але і жадаючых зрабіць пакупку.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

*З КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ*

# «КАМЕННЕ Ў БАРОЗНАХ — ДЗЯДОЎ КУЛАКІ»

Алесь Пісарык выдаў новы паэтычны зборнік. Гэтым разам — кнігу лірыкі "Журба вяргіні". Калі не памыляюся і калі лічыць за кнігу больш ёмістую даборку ў калектыўным зборніку "Нашчадкі", то "Журба вяргіні" — шостая прадстаўнічая, кніжная сустрэча Алеся Пісарыка з беларускім чытачом.

**Застыла песня ў горле беларуса**
**І вырваная з голасу журба**
**Гарыць, як непакорлівая ружа...**
**О Божа, ад бяды народ пазбаў!**

**"Сваё б дабро —**
**Сваім сярпом пажаці!" —**
**Спакон вякоў жадалі крывічы.**
**Жыве ва мне заклён сялянскай маці**
**Душу зямлі ад здзеку зберагчы.**

Будучы традыцыяналістам па сваёй паэтычнай натуры, Алесь Пісарык, здаецца, зразумеў, асэнсаваў стрыжань сапраўднай паэзіі. Тых творчых вытокаў, якія з'яўляюцца стваральнымі, энергетычна-крынічнымі ў руху прыгожага да жыцця. Сяргей Законнікаў у прадмове да кнігі "Журба вяргіні" заўважыў: "...ён выказвае свае пачуцці надзвычай проста і натуральна. Яго душа прарастае радкамі так, як зямля вітае вясну першымі зялёнымі стрэлкамі травы. Але заўважаецца, што рамантычнае ўспрыманне ўсяго існага саступае месца роздуму, больш глыбокаму асэнсаванню чалавечага быцця. За апошнія гады паэту давялося многае зведаць, адчуць, перадумаць, перажыць. А таму лепшыя радкі кнігі дыхаюць пакутамі і радасцю, трагізмам, жыццясцвярджальнасцю, пазначаны настойлівым душэўным пошукам. Бачыш, што лірычны герой, аднадумца паэта, імкнецца стаць чалавекам, які, кажучы словамі Уолта Уітмена, ніколі не ўмяшчаецца "паміж ботам і капелюшом".

**Нам сейбітны боль перадалі вякі.**
**Каменне ў барознах —**
**дзядоў кулакі.**

Такія радкі нельга прыдумаць адразу, нельга знайсці іх за пісьмовым сталом. Такія словы трэба перажыць, асэнсаваць, адкрыць у доўгіх развагах, удзелам сваім у жыцці адкрыць. Асабліва першы раздзел — "Няскошаныя дажджы" (якая прыгожая назва!) — уражвае выразнай лірыка-грамадзянскай пазіцыяй паэта. Алесь Пісарык рашучы, самаадданы, самаахвярны, калі хочаце, у сваёй любві да Айчыны. Праўда, паэзія з выказваннем, вымаўленнем любві ў аўтара "Журбы вяргіні" істотна розніцца ад паэзіі ранейшых дзесяцігоддзяў, калі шматшарэнгавыя атрады вершатворцаў любілі дэкларатыўна, дэманстратыўна. Любілі на ўсё горла, хрыпелі, каб толькі любоў тую заўважылі, прыкмецілі. Сапраўдная любоў як у выпадку з каханнем да жанчыны: любоў не для сябе, а для некага іншага, для яго шчасця, дабрабыту, для яго самавыяўлення.

І робіць гэта Алесь Пісарык нязмушана. Як нязмушана нагадвае ўсім пра пачуццё абавязку, пра тое, каб не забываліся вяртаць даўгі. Бацькам, блізкім людзям, Айчыне, пакаленням папярэднікаў.

**Прыпадаюць душой да зямлі**
**мужыкі.**
**Залаціцца дабро з-пад мазольнай**
**рукі...**
**У пашане сявенька і дзедаўскі**
**плуг.**
**Зачасціла каса на някошаны**
**луг.**
**Дзе стагі жураўлінае неба**
**ўзнялі —**
**Там вясёлкі вянок пану жніўню**
**сплялі.**
**Бач, як вырадзіў стол гаспадар**
**малады:**
**За параду ў жыцці — вам па чарцы,**
**дзяды!**

Алесь Пісарык шмат піша пра родных, блізкіх, добра вядомых яму людзей (вершы "Памяці мамы", "***Дзядзька Васіль смерці прасіў...", "Голас дзеда майго", "Каля магілы бацькі"), Так, тут таксама выяўляецца жаданне паэта сплаціць даніну павагі, але не толькі. Праз вяртанне да вобразаў блізкіх людзей паэт каторы раз ладзіць сабе высокага кшталту духоўнае выпрабаванне. Мажліва, нікольні не слабейшае за іншыя фізічныя пакуты. На сустрэчы з роднымі трэба і пачуваць, і глядзець вочы ў вочы, сэрца ў сэрца, душа ў душу. А хіба што ёсць цяжэйшае за гэта?!

Паэзія Алеся Пісарыка пры ўсёй яе лірычнасці, чуллівасці надзвычай сацыяльная. Дасягае гэтага паэт дзякуючы зусім не механічнай зададзенасці, а за кошт таленавіта скарыстаных, душой, сэрцам адкрытых мастацкіх сродкаў. Многія параўнанні, азначэнні такія выразныя, трапныя, што ўжо выходзяць за межы асобнага верша, шыраць прастору свайго існавання. Зямлю паэт называе "жабрачай з цела кашуляй", дожджык халодны — валацугам, які "зноў прыкладае да шыбіны вуха", а маладзік цалуе разгарачанае лісце...

Шмат у зборніку вершаў і пра каханне. Што ж яно — і паэзіі, і жыцця аснова. Магутная, стваральная аснова.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# ВАТЭНШТЭТ – «БЕЛАРУСКАЯ ВЁСКА»

**(Заканчэнне. Пачатак на 5-й стар.).**

цітаўскіх лагерах, толькі і марылі пераехаць да нас — у нашу "Беларускую вёску" ў Ватэнштэт. Дзеля гэтага Святаслаў Коўш амаль штодня абіваў парогі англійскіх улад, каб атрымаць большую дапамогу. І дапамога прыйшла. У нас не было царквы, не было клуба, ні школы для малых. Але дзякуючы Святаславу Каўшу і працавітасці беларускай грамады, усё хутка змянілася. З некалькіх разбураных баракаў мы пабудавалі Беларускі дом, дзе пазней адбываліся канцэрты, пастаноўкі і танцы. Неўзабаве пабудавалася праваслаўная царква, якая магла змясціць 150—200 прыхаджан. Вялікая заслуга тут скульптара Алега Махнюка, які ўклаў шмат працы ва ўпрыгажэнне лагернай царквы, якая мела сапраўдны праваслаўны ўнутраны выгляд. Потым была закладзена пачатковая школа для нашай дзятвы, а неўзабаве вырасла і гімназія. Тут якраз Хведар Ільяшэвіч выкладаў беларускую мову і лаціну.

Я хачу крыху вярнуцца назад і прызнацца, што, на маю думку, мне пашанцавала памясціцца з Хведарам Ільяшэвічам. Магчыма, так выйшла таму, што мае сябры, якія прыехалі раней за мяне, ведалі аб маіх здольнасцях пісаць вершы і лірычныя фельетоны. Жывучы ў польскім лагеры, я напісаў па-польску лірычную меладраму пад загалоўкам "Тэрэса". (Мо таму, каб паказаць, што я паляк, бо беларусаў, асабліва праваслаўных, і ўкраінцаў польскія лагерныя ўлады перадавалі савецкім рэпатрыяцыйным уладам). Дзеля гэтага, апынуўшыся ў Англіі і ажаніўшыся, я назваў сваю дачку Сузан — Тэрэса. Такім вось чынам, думаю, я апынуўся ў адным пакоі з Хведарам Ільяшэвічам. Мне тады было 20 гадоў, а Хведару Ільяшэвічу 35, але мы падружылі з першага дня і дзяліліся, чым маглі. Тут варта зазначыць, што Хведар Ільяшэвіч пасля заняткаў у гімназіі пераставаў быць "сп. Ільяшэвіч", а проста "дзядзя Федзя". З малымі дзецьмі ён быў дзіцё, з старымі ён быў старым, а з намі, студэнтамі, проста маладым, заўсёды вясёлым.

Са мной ён быў як сябра, брат, а не раз — бацька. Бывала, збіраўся на танцы ці ў кіно, дык ён вымаў з сваёй шафы новую кашулю ці світэр і гаварыў: "Адзявай гэта". І дадаваў паўжартам: "Мо лепш спадабаешся дзяўчатам". Як я ўжо згадваў, у лагеры былі пабудаваны Беларускі дом, царква, пачатковая школа і гімназія, але Хведар Ільяшэвіч гаварыў, што нам патрэбна шмат больш, каб узгадаваць і маральна, і духоўна, і фізічна моладзь і накіраваць яе ў здаровым нацыянальным напрамку. Дзеля гэтага з дапамогай і з дазволу англійскіх улад ён закладвае ІМСА (гэта міжнародная арганізацыя маладых хлопцаў і дзяўчат), дзе былі ўсялякія секцыі — спартыўныя і мастацкія. Яны спаборнічалі не толькі між сваімі лагерамі, але і між нацыянальнымі. Найбольш вядомай і папулярнай у тыя гады была валейбольная каманда "Нёман", якая забрала другое месца ў спаборніцтве ўсёй англійскай зоны ў 1947 годзе.

Хведар Ільяшэвіч, як "стары" скаўт, прымае вялікі ўдзел у заснаванні і ўзгадаванні скаўцкай арганізацыі. Ён з сваіх юнацкіх гадоў добра ведаў, што па сваёй структуры, па сваіх выхаваўчых магчымасцях і мэтах скаўтынг найлепш спрыяе замацаванню сужыцця і супрацоўніцтва старэйшага грамадства з моладдзю. У лагеры пачынае выходзіць "Крывіцкі скаўт" — месячнік, у які я пішу свае вершы і якія рэдагуе сп. Пануцэвіч. Але я заўважыў, што кожнае мной напісанае слова "Беларусь", "беларускі", "беларуская" без маёй згоды і дазволу змяніліся на "Крывія", "крывіцкі", "крывіцкія". На маё пытанне, чаму, сп. Пануцэвіч пачаў пералічваць нашы плямёны XIV стагоддзя, ды я яго перарваў адказам, што аб гэтым ведаю яшчэ з Маладзечанскага гандлёва-адміністрацыйнага інстытута, дзе ў той час дырэктарам быў Барыс Кіт. З таго часу я перастаў пісаць у "Крывіцкі скаўт", адказаўшы сп. Пануцэвічу, што беларусам я нарадзіўся і беларусам памру. Я не ведаю, як Хведар Ільяшэвіч на гэта зарэагаваў, бо ён заўсёды дапамагаў мне і заахвочваў да літаратурных спроб.

Сам Хведар Ільяшэвіч быў моцна заняты падрыхтоўкай матэрыялу для "Шляхам жыцця" і таксама пачаў выдаваць "Апошнія весткі". Яны чыталіся на новастворанай "Жывой газэтцы", якая адбывалася ў памяшканні ІМСА. У першыя тыдні "Жывая газэтка" не была "жывой", а манатоннай, і Хведар Ільяшэвіч ад гэтага моцна хваляваўся. Заўсёды пачыналася з "Апошніх вестак", якія чыталіся пераважна Нэляй Навіцкай і Міхасём Бурносам. Пасля вестак з Беларусі — расказы і некалькі прадэкламаваных вершаў. Толькі аднойчы першакласная студэнтка Нэля Навіцкая прадэкламавала верш Янкі Купалы "Цару Неба і Зямлі" з сапраўдным пачуццём і па-мастацку, што не толькі ў яе, але і ў многіх слухачоў заблішчэлі ў вачах слёзы. Але ж немагчыма дэкламаваць адзін і той самы верш кожнага тыдня, каб расчуліць слухачоў. Параіўшыся з Хведарам Ільяшэвічам, мы пастанавілі: час ад часу праводзіць на "Жывой газэтцы" так званыя "літаратурныя суды".

Першым быў "суд" над беларускай інтэлігенцыяй у аповесці Тараса Гушчы "У глушы Палесся", што прыцягнула больш старэйшых грамадзян на "Жывую газэтку". Гэта падбадзёрыла Хведара Ільяшэвіча, але ўсё адно Хведар гаварыў, што нечага не хапае, і з нейкай іранічнай усмешкай сказаў, што раз змеціў, як кабеціна пачынала драмаць. Тады, як маланкай, наляцела мне думка, што ў "Жывой газэтцы" бракуе гумару, і з-за гэтага яна выглядае і манатоннай і не "жывой". "Так", — вырвалася з грудзей Хведара Ільяшэвіча, ён паціснуў маю руку. Праз некалькі хвілін ён глянуў на мяне, палажыў адну руку на маё плячо і сказаў: "Алесь, — гэта твая тэма і твой абавязак: кожнага чацвярга, кожнага тыдня". І з таго часу я пачаў пісаць на кожную "Жывую газэтку" свой лірычны фельетон аб нашым лагерным жыцці. Інакш кажучы, была здаровая самакрытыка, але не ўпаміналася ніколі нічыё прозвішча. Ды слухачы, якіх цяпер збіралася поўная зала, кожны раз маглі здагадацца, пра каго ці пра што ў фельетоне была гаворка.

Наш "дзядзя Федзя" шмат павесялеў і яшчэ больш пачаў укладаць працы сярод моладзі. Ён арганізуе экскурсіі ў прыгожыя непадалёку мясціны Гарцу. Час ад часу нашы скаўты адведвалі іншых скаўтаў у бліжэйшых мясцінах.

У лагеры Ватэнштэт у 1946 годзе не было адкрытых так званых "крывічоў", а калі яны і былі, дык іх можна было палічыць на пальцах аднэй рукі і яны нібыта хаваліся або нечага саромеліся. Але да нас даходзілі чуткі, што ў іншых лагерах, асабліва ў амерыканскай зоне, яны ўжо шумелі, як чмялі, і час ад часу наведвалі наш лагер, каб праводзіць сваю "крывіцкую" прапаганду. Хто ведае, мо дзеля гэтага і быў скліканы ў нашым лагеры з'езд з усіх акупацыйных зон усіх актыўна палітычных кіраўнікоў беларускай інтэлігенцыі, каб залагодзіць гэту справу, пакуль яна не пашырыцца. З'езд пачаў сваю працу а 9-й гадзіне раніцы і скончыўся ў 8 вечара. Сюды прыбылі былыя супрацоўнікі БЦР, Беларускай самапомачы, кіраўнікі БКА, удзельнікі 2-га Усебеларускага кангрэса. Для цікавасці чытачоў варта ўспомніць, што быў прысутным з лагера Ватэнштэт адзіны сябра Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, які браў удзел у 1-м і 2-м усебеларускіх кангрэсах, — гэта Мікола Шыла. Мне, 20-гадоваму юнаку, удалося прыціснуцца да Хведара Ільяшэвіча, які падаў мяне рэвізійнай камісіі як журналіста ад "Шляхам жыцця". Такім чынам я ўпершыню пазнаў усіх беларускіх тагачасных дзеячаў. Божа мой мілы, думаў я, нашы інтэлігенты, замест быць інтэлігенцыяй і абгаворваць усе справы згодна з прынятым з'ездам парадкам дня, не прытрымліваліся ніякіх правілаў. Крычалі хто як мог, не беручы голасу. Не раз з'езд мне напамінаў маладзечанскі жыдоўскі кірмаш. Хведар Ільяшэвіч, седзячы за сталом у прэзідыуме, стараўся супакоіць гарачых і непаслухмяных, гаворачы, што палітычныя справы нельга разглядаць як нешта выдуманае, што не мае ніякіх гістарычных падстаў, што ў дэмакратычным свеце прэзідэнты выбіраюцца народам (дэлегатамі), а не тэстамэнтам, дабаўляючы, што нават сам Захарка ніколі не быў прэзідэнтам, а толькі перадаў архівы БНР Абрамчыку на пераховы, і дзеля гэтага канцэпцыя новага прэзідэнта ў сучаснай форме была б нерэальнай і недэмакратычнай. З'езд крыху суцішыўся, і старшыня прэзідыума аб'явіў гадзінны перапынак на абед. Я асабіста быў вельмі расчараваны паводзінамі некаторых дэлегатаў, ды мне, тады юнаку, не ўсё ў той час было зразумелым. Я пастанавіў не ісці на другую палавіну з'езда. Надыходзіў чацвер, і мне трэба было думаць аб падрыхтоўцы на "Жывую газэтку" фельетона з лагернага жыцця. Шмат не думаўшы, я і пачаў:

**Дык што казаць, калі вось сёння**
**Свой родны брат на чужыне**
**Заместа згоды злосцю пахне**
**І камень носіць ў жупане...**
**. . . . . . . . . . . . . . . .**
**А дзе ж тады паны вы былі,**
**Калі сярод маны й спакус**
**Ішлі у бой, па турмах гнілі,**
**Нашы браты за Беларусь!!" і г. д.**

Пазней даведаўся ад Хведара Ільяшэвіча, што з'езд не дайшоў да згоды, не вынес ніякіх лагічных прапаноў і дэлегаты раз'ехаліся. Адны з засмучанымі думкамі, а некаторыя пэўна з шырокай усмешкай. Гэты з'езд, на мой погляд, быў пачаткам адкрытай вайны паміж крывічамі і беларусамі.

Але надыходзіў час, і мы атрымалі дазвол выязджаць у іншыя дэмакратычныя краіны, якія гарантавалі вольнасць і свабоду кожнага чалавека. Першыя групы выехалі ў Бельгію, Францыю і Англію. Англія нават прысылала сваіх прадстаўнікоў, якія заахвочвалі жыхароў лагера, гарантуючы добры заработак і апеку. Але была адна перашкода: у Англію прымаліся на выезд толькі "халасцякі" хлопцы і дзяўчаты і ў добрым здароўі. Сямейныя жыхары мусілі чакаць, пакуль ЗША, Канада, Аўстралія і Новая Зеландыя згадзіліся браць пэўны кантынгент. Праз некаторы час я і некалькі сяброў пачалі над гэтым сур'ёзна думаць і ў рэшце рэшт пастанавілі выехаць у Англію. Але не хацелася расставацца і з Ватэнштэтам, з Хведарам Ільяшэвічам, з якім пражыў у адным пакоі амаль тры гады. Урэшце надышоў дзень ад'езду. Амаль увесь лагер выйшаў на развітанне. Сярод грамады стаялі Хведар Ільяшэвіч і Святаслаў Коўш. Бліжэй машыны стаялі дзяўчаты з заплаканымі вачыма. Машына кранулася з месца, і стала сумна, сэрца сцiскалася з нейкім болем. Машына рухалася памалу, але з вачэй знікала не толькі грамада, якая прыйшла з намі развітацца. Знікалі з вачэй баракі Ватэнштэта — "Беларускай вёскі". Знікалі дрэўцы і кветкі, якія за тры гады замянілі лагерны асот і крапіву...

Прыехаўшы ў Англію, я навязаў лучнасць (як Хведар Ільяшэвіч радзіў) з ХАБР — Хрысціянскае аб'яднанне беларускіх работнікаў у Вялікабрытаніі. Таксама, як Хведар Ільяшэвіч радзіў, я залажыў пры ХАБР скаўцкую арганізацыю і пачаў выдаваць скаўцкі часопіс для беларускай моладзі "Да мэты" з фінансаваю дапамогай з боку ХАБР.

**Алесь ГАТКОВІЧ.**

Англія. 1997 г.

*Разам са сваімі ўспамінамі Алесь Гатковіч даслаў верш Хведара Ільяшэвіча, напісаны ў Ватэнштэце — пра Ватэнштэт.*

**Хведар ІЛЬЯШЭВІЧ**

**Куды б нас лёс ня кінуў —**
**Ў чужы далёкі сьвет, —**
**Ніколі не забудзеш**
**Наш лягер Ватэнштэт:**

**Драўляныя баракі,**
**Фабрычных трубаў рад;**
**Ды тут заплача ўсякі,**
**Тут кожны табе брат.**

**Праходзяць дні выгнаньня,**
**Трывогаў і надзей,**
**Ўспамінаў і каханьня**
**І месячных начэй.**

**Наш дух расьце, мацнее,**
**І водгульле ідзе.**
**Мы сьветлыя ідэі**
**Нясем у грамадзе.**

**Дык хай высока рэе**
**Наш беларускі сьцяг.**
**Хай сьветлыя ідэі**
**Наш асьвятляюць шлях.**








# МІРСКІЯ РЭСТАЎРАТАРЫ

Мірскае мастацкае вытворча-тэхнічнае вучылішча № 234 рэстаўрацыйных работ сёлета адзначыць невялікі юбілей — дзесяцігоддзе з дня адкрыцця. З аднаго боку, дзесяць год — гэта невялікі тэрмін, а з другога — гады станаўлення, набыцця пэўных традыцый, час падвядзення першых вынікаў сваёй дзейнасці.

Шмат што змянілася за гэты тэрмін. У вучылішча створана неблагая матэрыяльна-тэхнічная база. Ёсць інтэрнат. Навучэнцам ствараюцца ўмовы для набыцця ведаў, арганізацыі іх вольнага часу.

Наша вучылішча адкрывалася як першая ў рэспубліцы рэстаўрацыйная навучальная ўстанова, якой было прызначана рыхтаваць кадры рэстаўратараў. Аднак час ішоў, патрэбы ў спецыялістах мяняліся, і з 1991 года вучылішча крыху перапрафілiравалася — стала мастацкім.

На сёння ў ім рыхтуюцца спецыялісты па наступных прафесіях: сталяр, разьбяр па дрэву, рэстаўратар помнікаў драўлянага дойлідства, рэстаўратар дэкаратыўна-мастацкіх афарбовак, дэкаратыўнага тынку і ляпных вырабаў, мастак роспісу па дрэву, інкрустатар саломкай, выканаўца мастацка-афарміцельскіх работ, ганчар, вытворца мастацкіх вырабаў з керамікі. На вучобу прымаюцца юнакі і дзяўчаты, якія скончылі не менш дзевяці класаў. Усе паступаючыя здаюць уступны экзамен па малюнку, бо пры набыцці любой прафесіі вывучаюцца такія прадметы, як жывапіс, малюнак, кампазіцыя.

Такім чынам, навучэнцы атрымліваюць дастатковую падрыхтоўку па мастацкім профілі, аб чым сведчыць і той факт, што 10—15 выпускнікоў вучылішча штогод паступаюць у Беларускі універсітэт культуры і Беларускую акадэмію мастацтва.

Педагагічны калектыў вучылішча, вядома ж, імкнецца даваць сваім выхаванцам трывалыя веды па ўсіх прадметах, рыхтаваць высокакваліфікаваных работнікаў.

Прыемна адзначыць, што сярод выпускнікоў ёсць ужо і выдатныя майстры, такія, як мінскі скульптар В. Тапчылка, народны майстар С. Аўсюкевіч з Ашмян і іншыя. Многія з нашых выхаванцаў працуюць, і зусім нядрэнна, на рэстаўрацыйных аб'ектах. Напрыклад, на Мірскім замку, Нясвіжскай ратушы, Каложскай царкве і г. д. Увогуле геаграфія працаўладкавання вельмі шырокая — гэта ўсе вобласці Рэспублікі Беларусь, краіны блізкага замежжа (Расія, Украіна, Польшча). Нас вельмі радуе, што ў захаванне помнікаў архітэктуры, гісторыі і культуры, іх аднаўленне ўносяць сваю працу і выпускнікі Мірскага вучылішча.

**А. АСТАШКА,**
**намеснік дырэктара**
**па вучэбна-вытворчай**
**працы Мірскага ВТВ № 234.**

**НА ЗДЫМКАХ: будынак вучылішча; Наташа КАЛЯДА будзе спецыялістам па інкрустацыі саломкай; майстар вытворчага навучання ганчар-кераміст Уладзімір ШВАЙКОЎСКІ са сваімі вучнямі; майстар Святлана ГУСАКОВА і яе выхаванкі.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**





**ДА ЧЫТАЧОЎ «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ» Ў БЕЛАРУСІ!**

**Пачалася падпіска на перыядычныя выданні на першую палову 1998 года.**

**На газету "Голас Радзімы" можна падпісацца ва ўсіх паштовых аддзяленнях Беларусі.**

**Індэкс штотыднёвіка "Голас Радзімы" — 63 854.**

**Спадзяемся, што нашы пастаянныя чытачы і прыхільнікі не толькі самі падпішуцца своечасова на "Голас Радзімы", але і параяць іншым зрабіць гэта.**

# АДНО З САМЫХ АДМЕТНЫХ

Трэці год выходзіць незалежная газета "Белавежская Пушча". Выдавец і рэдактар Валерый Дранчук назваў сваё выданне прыродалюбным. Гэта вельмі канкрэтна, дакладна і, трэба сказаць, арыгінальна вызначае тэматыку і канцэпцыю газеты. Сапраўды, лозунг аб рацыянальным выкарыстанні прыродных багаццяў сёння стаў здзеклівым, ганебным, кашчунным таўром. Прыроду засталося толькі любіць, толькі захоўваць.

Адметнай асаблівасцю "Белавежскай Пушчы" з'яўляецца тое, што вострыя праблемы экалогіі яна вырашае не толькі грунтоўна, але і па-мастацку ярка, вобразна. Гэта арганічна стасуецца з канцэпцыяй газеты, якая нацэлена не толькі адлюстроўваць, фіксаваць, аналізаваць, але і апяваць, паэтызаваць, зачароўваць.

Магія роднага слова, якой выдатна валодае В. Дранчук, дазваляе яму дасягнуць гэтага. Прыгажосць не можа абыходзіцца без рамантыкі, таму на старонках "Белавежскай Пушчы" несумненна прысутнічае элемент рамантызму. Апошнія нумары сведчаць, што сам рэдактар канчаткова прыйшоў да несуцяшальнай для сябе высновы: Белавежская пушча, якую ён выбраў прадметам свайго адлюстравання і паэтызацыі, зараз з'яўляецца калі не ілюзіяй, дык, прынамскі, марай, якой патрэбны неадкладнае ратаванне і паўнакроўнае рэальнае ўвасабленне.

В. Дранчук гатовы бараніць святыню краю. Краязнаўчая па тэматыцы і сутнасці яго газета чым далей, тым болей набывае выразны грамадзянска-патрыятычны пафас. Падкрэсліваецца, што пры цяперашнім дзяржаўным кіраўніцтве над пушчай вісіць Дамоклаў меч далейшага яе спусташэння і выраджэння. Пушчу могуць спляжыць, зруйнаваць піламі, меліярацыйнымі механізмамі, забавамі, паляваннем.

Газета "Белавежская Пушча" робіцца намаганнямі практычна аднаго чалавека — яе рэдактара В. Дранчука. Высакароднасць тэматыкі, актуальнасць і глыбіня праблем, яркая мова, мастацкае афармленне робяць яе адным з самых адметных перыядычных выданняў нашай краіны.

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 233-16-56, 213-37-82.



Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1584.
Падпісана да друку 10.11.1997 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.